# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Лістапад-
Сьнежань

Год XIII

№ 6

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1965 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвяртаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII** **November-December 1965** **Nr. 6 (93)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XIII | ЛІСТАПАД - СЬНЕЖАНЬ | № 6 (93)

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІНШУЕ

ДАРАГОГА ДАСТОЙНАГА

ЎЛАДЫКУ ЧЭСЛАВА

ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ і ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ЗЬ ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА

І ЖАДАЕ

ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1966 ГОДУ!

КАБ БОГ ДАЎ У ГЭТЫМ ГОДЗЕ

СВАБОДУ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

# Сынод Біскупаў для ўсяе Царквы

У першы дзень IV-ае Сэсіі II-га Ватыканскага Сабору 14. IX. 1965 Папа Павал VI абвесьціў, што ў хуткім часе жадае паклікаць да жыцьця зусім новую царкоўную установу — **Сынод Біскупаў.**

І сапраўды, пасьля некалькіх дзён Айцы Сабору атрымалі Апостальскае Пасланьне (Litterae Apostolicae — Motu Proprio), якое пачынаецца славамі: „Apostolica sollicitudo...“ «Апостальская руплівасьць...», а якое бяз сумніву зьяўляецца ўстаноўчай граматай вялізарнага гістарычнага значэньня. Папа, ідучы ў сьлед за выказаным жаданьнем Айцоў Сабору, паклікае да жыцьця **Сынод Біскупаў для ўсяе Царквы.**

Гэты Сынод, як чытаем у Пасланьні, зможа ў будучыні асягнуць больш дасканалую форму. Цяпер аднак будзе кіравацца наступнымі нормамі:

I

СЫНОД, праз які выбраныя з розных краінаў сьвету Біскупы маюць дапамагаць Найвышэйшаму Пастыру Царквы, зьяўляецца:

а) Цэнтральнай Царкоўнай Інстытуцыяй;

в) Будзе выступаць ад імя ўсяго каталіцкага Епіскапату;

с) Паводля сваей структуры ён ня ёсьць заўсёдны і будзе выконваць сваё заданьне прынагодна — ў залежнасьці ад патрэбы.

II

Із самай натуры Сыноду вынікае, што ён будзе інфармаваць і даваць рады, або нават і вырашаць пэўныя справы, аднак толькі ў тых выпадках, калі на гэта будзе дадзеная згода Рымскага Першасьвятара.

Агульныя мэты Сыноду Біскупаў ёсьць наступныя:

1) Падтрымоўваць бліжэйшую сувязь між Папай і Біскупамі ўсяго сьвету, а такжа дапамагаць яму;

2) Клапаціцца аб праўдзівых вестках з першае крыніцы, аб праблемах і умовах, у якіх знаходзіцца ўнутранае жыцьцё Царквы і яе адпаведная дзейнасьць у сучасным сьвеце;

3) Аблягчыць шлях да згоды — прынамся ў сутных дактрынальных пытаньнях, а такжа адносна спосабу дзеяньня ў жыцьці Царквы.

Бліжэйшай або спэцыяльнай мэтай Сыноду ёсьць:

1) Узаемная інфармацыя;

2) Нарады ў тых справах, дзеля якіх кожнаразова Сынод будзе склікацца.

III

Сынод Біскупаў непасрэдна падлягае Рымскаму Першасьвятару, які апрача таго будзе:

1) Склікаць Сынод, пакольκі будзе ўважаць за патрэбнае, назначаючы такжа месца зьезду;

2) Зацьвярджаць выбор сяброў;

3) Устанаўляць на шэсьць месяцаў да зьезду лісту справаў, якія маюць быць заладжаныя;

4) Даглядаць, каб ліста была загадзя перасланая тым, якія павінны прыймаць удзел у вырашэньні справаў;

5) Устанаўляць парадак справаў;

6) Кіраваць Сынодам праз сябе або праз іншых.

IV

Сынод Біскупаў можа мець трох родаў Зьезды — агульны, нязвычайны і звычайны.

V

У Агульным Зьезьдзе Сыноду Біскупаў прыймаюць удзел:

I. a) Патрыярхі, Архібіскупы Большыя і і Мітрапаліты, якія знаходзяцца звонку Патрыярхатаў каталіцкіх Цэркваў усходняга абраду;

в) Біскупы, выбраныя Канфэрэнцыямі Біскупаў з розных нацыяў, г. зн. тыя, што ня маюць сваіх уласных Канфэрэнцыяў;

с) 10 законьнікаў з розных Законаў, якія былі выбраныя Рымскім Аб'еднаньнем Генэралаў.

II. Апрача таго ў агульным Зьезьдзе Сыноду Біскупаў прыймаюць удзел Кардыналы, якія стаяць на чале Рымскіх Курыяў.

VI

У Нязвычайным Зьезьдзе Сыноду Біскупаў прыймаюць удзел:

I. a) Патрыярхі, Архібіскупы Большыя і Мітрапаліты, якія находзяцца звонку Патрыярхатаў Цэркваў усходняга абраду;

в) Старшыні Біскупаў Нацыянальных Канфэрэнцыяў;

с) Старшыні Біскупскіх Канфэрэнцыяў розных Нацыяў, г. зн. такіх, якія ня маюць сваей уласнай Канфэрэнцыі;

д) Тры законнікі, якія належаць да якогасьці Закону і былі выбраныя Рымскім Аб'еднаньнем Генэралаў.

II. Апрача таго ў Нязвычайным Зьезьдзе Сыноду Біскупаў прыймаюць удзел Кардыналы, якія стаяць на чале Рымскіх Курыяў.

VII

У Звычайным Зьезьдзе Сыноду прыймаюць удзел Патрыярхі, Архібіскупы Большыя і Мітрапаліты, якія знаходзяцца звонку Патрыярхатаў каталіцкіх Цэркваў усходняга абраду, а такжа і тыя, што зьяўляюцца сябрамі Біскупскіх Канфэрэнцыяў аднэй або шматлікіх Нацыяў, або сябрамі Законаў. Законныя аднак Інстытуцыі гэтых апошніх сяброў Сыноду павінны знаходзіцца у тых краінах, дзеля якіх Сынод Біскупаў быў склікаваны.

VIII

Біскупы — ўдзельнікі паасобных Біскупскіх Нацыянальных Канфэрэнцыяў — выбіраюцца ў склад Сыноду наступным спосабам:

а) Адзін ад кожнай Нацыянальнай Канфэрэнцыі, якая лічыць ня больш 25 сяброў;

в) Два ад кожнай Канфэрэнцыі, якая лічыць ня больш 50 сяброў;

с) Тры ад кожнай, якая лічыць ня больш 100 сяброў.

д) Чатыры ад кожнай, якая лічыць больш 100 сяброў;

Канфэрэнцыі Біскупаў розных Нацыяў выбіраюць сяброў у склад Сыноду паводля тэй самай вышэй пададзенай прапорцыі.

Пры выбіраньні ў Сынод сяброў трэба браць пад увагу ня толькі іхнюю веду і растаропнасьць, але такжа і тое, пакольκі яны азнаёмлены з тэорыяй і практыкай тэй справы, якой займаецца Сынод.

Найвышэйшы Сьвятар, калі будзе ўважаць патрэбным, можа пабольшыць лік сяброў Сыноду дадаючы ад сябе Біскупаў, або законнікаў, ці нават дасьведчаных у царкоўным жыцьці мужоў улучна да 15/100 усіх сяброў Сыноду.

IX

Калі скліканы Зьезд Біскупаў зачыніцца, ipso facto разьвязываецца склад асабовы Сыноду, а такжа канчаюцца заданьні і абавязкі кожнага з сяброў, якія ён выконваў у час трываньня Сыноду.

Сынод Біскупаў мае сталага генэральнага Сакратара, які атрымае адпведную колькасьць памацнікоў. Апрача таго кожны Зьезд Сыноду Біскупаў будзе мець свайго ўласнага Сакратара, які будзе спаўняць свой абавязак да канца працы Зьезду.

Як генэральнага так і спэцыяльных Сакратароў назначае Папа.

*

Гэты дакумант, якога сутнасьць мы падалі, ёсьць вельмі важнай граматаю. Як можна заўважыць, ён не нарушае першай ролі ў Царкве Хрыстовай наступніка Апостала Пятра, але адначасова ўпрагае ўвесь каталіцкі епіскапат у агульна-царкоўную працу. Ад гэтага часу вельмі важную роль будуць спаўняць г. зв. Канфэрэнцыі Біскупаў, якія хаця ўжо здаўна існавалі сярод некаторых нацыяў, але дагэтуль — апрача чыста мясцовага і арганізацыйнага значэньня большага ня мелі. Ця-



*Пачатак IV Сэсіі II-га Ватыканскага Сабору 14. IX. 1965. Частка Саборных Біскупаў: між імі відаць ёсьць Айцы Усходняга абраду, а між лацінскімі — індусы і нэгры.*

пер-жа яны будуць адным з фундамантаў да цэлай структуры Сыноду Біскупаў.

Хаця канчаткова Сынод яшчэ не аформіўся, але з нагоды экумэнічнага Сабору адбыліся ў Рыме першыя зборкі дня 21 кастрычніка і 11 лістапада гэтага году.

На першай зборцы, якую ушанаваў сваёй прысутнасьцю сам Папа, разважалася справа царкоўнай дысцыпліны адносна пастоў, а на другой справа індульгенцыяў (адпушчэньня дачаснай кары за грахі).

Урэшце можна паставіць пытаньне: які удзел у Сынодзе Біскупаў будуць мець прадстаўнікі тых народаў, якія маюць вельмі абмежаны лік сваіх Біскупаў і ня могуць стварыць уласнай Канфэрэнцыі?

Праўдападобна тыя Біскупы, што ня змогуць стварыць уласнай Канфэрэнцыі (беларусы, літоўцы, латышы і іншыя), далучацца да існуючых ужо Міжнародных Біскупскіх Канфэрэнцыяў, або створаць сваю Міжнародную Канфэрэнцыю, што для нас было-б пажаданым. Пэўныя крокі ўжо ў этым кірунку распачатыя.

**Ч. С.**

# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue , London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*

*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*

*а. Леў Гарошка, Рэктар*

*а. Язэп Гэрмановіч*

*а. Аляксандар Надсон*

а. Аляксандар

# Каляды і Багаяўленьне

Пасьля «Сьвята Сьвятаў» — Вялікадня, — — найбольш урачыстым зьяўляецца час Калядаў і Багаяўленьня.

У Бізантыйскіх літургічных Кнігах Каляды абазначаюцца, як «трохдзённая Пасха». 40-дзённы передкалядні пост вельмі падобны да Вялікага посту, а 5 дзён перадсьвяцьця напамінаюць нам Вялікі Тыдзень.

Ёсьць важная прычына гэтага падабенства: Каляды і Вялікдзень зьяўляюцца ўспамінамі двух вялікіх здарэньняў у гісторыі нашага збаўленьня. У часе Каляд сьвяткуем прыход на сьвет Госпада Ісуса Хрыста, які ў сваім зьмёртвых'устаньні, як новы Майсей, правядзе нас ад сьмерці да жыцьця. Гэтая перамога была здабытая дарагой цаной. Апостал Павал кажа, што Хрыстос, «будучы вобразам Божым . . . упакорыў сябе, будучы паслушным да сьмерці і то сьмерці крыжовай». (Філ. 2, 6-9). Такім чынам перамога над сьмерцяй была купленая Хрыстом ганебнай сьмерцяй. Дабравольнае паніжэньне Хрыста пачалося ўжо пры ягоным нараджэньні. Будучы Богам, Хрыстос панізіў сябе, прымаючы форму стварэньня. Больш таго, для Ўладара сусьвету не знайшлося месца сярод людзей, якіх прышоў збавіць, і нарадзіўся Ён ў хлеве.

Гэта можа ў пэўнай меры выясьніць, чаму ў часе, які папераджае Каляды, адчуваецца атмасфэра Вялікага Тыдня, а затое само сьвята ёсьць быццам перадсмакам вялікоднай радасьці.

На ўсходзе Каляды маюць вельмі мала цяплыні «сямейнага сьвята» так характэрнага для Захаду. Мала гаворыцца аб людзкой старане ўцелаўленьня. Замест таго бізантыйская літургія дае для вернікаў вобраз Адзінароднага Сына Божага і Адвечнага Бога, які, дзеля любові для людзей, стаўся чалавекам. Песьня напярэдадні сьвята зьяўляецца добрым прыкладам вышэй сказанага:

«Сяньня родзіцца ад Дзевы той, хто ў сваёй руцэ сусьвет трымае; Недаступны ў сваёй сутнасьці, Ён сяньня, як сьмертны, пакрываецца пяленамі; Бог, які устанавіў нябёсы сваім словам, ляжыць у яслях; Той, хто даваў манну людзям у пустыні, прымае страву ад Маці; Жаніх Царквы мудрацоў прызывае і іхныя дары прымае Сын Дзевы.» (Песьня на 9-тым часе).

Сьвяткаваньне Каляд 25-га сьнежня на Ўсходзе пачалося ў IV-тым стаг. Гэты абычай прышоў з Рыму. Раней Народжаньне Хрыста сьвяткавалася 6-га студзеня разам з Багаяўленьнем.

Прыгатаўленьне да Каляд пачынаецца 40-дзённым постам 15-га лістапада, пасьля сьвята Апостала Піліпа, і таму на Беларусі называецца «Піліпаўкай».

У дзьве нядзелі перад сьвятам Каляд, Царква ўспамінае продкаў Хрыста (г. зн. продкаў Найсьвяцейшай Дзевы) ад Адама, а таксама ўсіх пракрокаў, якія прадсказалі прыход Хрыста і праведнікаў, якія дагадзілі Богу ў часах Старога Запавету. На вячэрні у гэтыя нядзелі сьпяваецца: «Успамінаючы прайцоў, усхвалім, верныя, Хрыста Збавіцеля, які ўславіў іх сярод усіх людзей».

На сьв. Літургіі ў нядзелю перад Калядамі чытаецца Евангельле паводле сьв. Мацвея, разьдзел I, вершы I-25, дзе даецца радавод Ісуса Хрыста. Такім чынам Царква жадае паказаць, што Хрыстос, які зьяўляецца сапраўдным Богам, быў таксама сапраўдным чалавекам.

24-га сьнежня ёсьць перадсьвяточны дзень, або «чаканьне». Раніцай звычайна няма сьв. Літургіі (хіба, што Каляды выпадуць у нядзелю, або ў панядзелак) і срогі пост абавязвае да вечара. Часы ў гэты дзень чытаюцца г. зв. «вялікія», або «царскія». Вечарам вячэрня з Літургіяй сьв. Васіля Вялікага. Ёсьць звычай служыць вячэрню з Літургіяй сьв. Васіля таксама напярэдадні Багаяўленьня, у Вялікі Чацьвер і Вялікую Сыботу. У часе вячэрні чытаецца 8 прароцтваў, у якіх прадсказаны прыход на сьвет Ісуса Хрыста. Евангельле ў Літургіі паводля Лукі, разьдз. 2, вершы I-20.

«Што мы ахвяруем Табе, Хрысьце, за тое, што Ты дзеля нас стаўся чалавекам?», — сьпяваецца ў часе Вячэрні, — «Кожнае стварэньне прыносіць Табе доказ сваёй удзячнасьці: ангелы — сьпеў, неба — зьвязду; мудрацы — свае дары; пастухі — хвалу; зямля — пяшчэру; пустыня — ясьлі. Мы-ж Табе прыносім Дзеву Маці, О Божа прадвечны, слава Табе».

У Калядні дзень на Літургіі чытаецца Евангельле паводля Мацвея, разьдз. 2, вершы I-12, аб пакланеньні мудрацоў. (На Захадзе пакланеньне сьвяткуецца 6-га студзеня. Адсюль назоў «Трох Каралёў»).

У часе Каляд сьпяваецца прыгожы кандак, напісаны адным з найвялікшых бізантыйскіх паэтаў, Раманам Сладкапеўцам (першая палова 6-га стаг.): «Сяньня Дзева родзіць Таго, хто перавышае ўсякае тварэньне, і зямля пяшчэру ахвяруе Недаступнаму. Ангелы з пастухамі Яго хваляць і мудрацы за зоркай сьледуюць. Бо для нас Дзіця радзілася — Прадвечны Бог».

Наступны дзень, 26-га сьнежня, называецца «Саборам Божай Маці». Гэта найстарэйшае сьвята ў Чэсьць Найсьвяцейшай Дзевы, якая тут услаўляецца як Маці Госпада Ісуса Хрыста.

Багаяўленьне 6-га студзеня зьяўляецца адным з найстарэйшых хрысьціянскіх сьвятаў. У Бізантыйскім абрадзе ўспамінаецца хрост у Ярдане Ісуса Хрыста. Гэта і ёсьць «Багаяўленьне», бо пры гэтай нагодзе была аб'яўлена сьвету боскасьць Ісуса Хрыста. Акрамя гэтага ў гэты дзень першы раз у гісторыі чалавецтва была аб'яўлена тайна Сьвятой Тройцы. Гэта вельмі добра выражана ў песьні (трапары): «Пры Тваім Хросьце ў Ярдане, Госпадзі, нам явілася Троічная хвала: бо вось голас Айца засьведчыў аб Табе, называючы Цябе ўлюблёным Сынам; І Дух у відзе голуба даў пацьвярджаньне гэтым словам. Слава Табе, Хрысьце Божа, які аб'явіўся і прасьвяціў сьвет».

Літургічна сьвята Багаяўленьня ёсьць падобным да Каляд і таму яго ня трэба тут апісваць падробна. На Вячэрні 12 прароцтваў, і евангельле (на Літургіі сьв. Васіля, якая сьледуе за вячэрняй) паводле Лукі, разьдз. 3, вершы I-18. Евангельле на Літургіі ў самы дзень сьвята ёсьць ад Мацвея разьдз. 3, вершы 13-17.

Выдатным пунктам Багаяўленьня ёсьць асьвячэньне вады, якое павінна быць напярэдадні сьвята вечарам, пасьля Літургіі сьв. Васіля. Звычайна аднак яно пераносіцца на самы дзень сьвята.

Значэньне асьвячэньня вады ёсьць тое, што Хрыстос, сам бязгрэшны, увайшоўшы ў ваду Ярдану і прыняўшы хрост даў гэтай вадзе сілу абмываць ня толькі вонкавы бруд, але таксама ачышчаць людзей ад грахоў і ажыўляць іх у тайне сьв. Хросту.

«О Госпадзі, — сьпяваецца у часе службы, — Ты прышоў, пачуўшы голас таго, хто крычаў у пустыні: ‚Рыхтуйце шляхі Госпаду'. Ня ведаючы граху, Ты прыняў вобраз слугі і папрасіў хросту. Воды пабачылі Цябе і спужаліся, і Прадвесьнік затурбаваўся і ўсклікнуў: ‚Як можа сьвяцільнік даць сьвятло Сьвятлу? Як слуга можа ўзлажыць рукі на Гаспадара? Асьвяці мяне і воды, Госпадзі, Ты, які бярэш грахі ўсяго сьвету».

У малітве благаславенства вады (твор сьв. Сафронія, патрыярха Ерузалімскага ў 10-тым стаг.) чытаем: «Сяньня струмені Ярданскія мяняюцца цераз прысутнасьць Госпада ў аздаўраўляючыя воды. Сяньня людзкія праступкі змываюцца сьвятымі водамі Ярдану . . . Сяньня прысутнасьць Госпада робіць салодкаю горкую ваду Майсеевага народу . . .» І далей: «Таму, Міласьцівы Уладару, будзь прысутным цераз зыход Сьвятога Духа і асьвяці гэтую ваду і дай ёй ласку адкупленьня, благаславенства Ярданскае. Зрабі яе крыніцаю нятленьня, дарам сьвятасьці, одкупам за грахі, аховай ад хваробаў, абаронай ад чэрцяў, недаступнай ніякай варожай сіле і поўнай ангельскай моцы; зрабі, каб яна была для тых, што яе прымаюць, на ачышчэньне цела і душы, на аздараўленьне цярпеньняў, на асьвячэньне дамоў і на кожную патрэбу . . .».

Як 26-га сьнежня ёсьць сьвята ў гонар Божай Маці, таксама і 7-га студзеня сьвяткуецца сабор сьв. Яна Хрысьціцеля, Прадвесьніка Хрыстовага, «Прыяцеля Жаніха», які, ахрысьціўшы Госпада ў Ярдане і паказаўшы Яго сьвету, зачыніў часы Старога Запавету. Бо «Закон і прарокі да Яна: ад таго часу прапаведуцца Евангельле Валадарства Божага» (Лука 16, 16).

**Я. Гэрмановіч**

# РЭФАРМАТАР

## (ДЫЯЛЁГ)

**(Працяг)**

Рэдакцыя зьмяшчае заканчэньне кніжкі «РЭФАРМАТАР», прапускаючы некалькі параграфаў, і просіць Паважаных Чытачоў выразіць свае заўвагі аб надрукаваных думках.

*

### ФАБРЫКА СЬМЕРЦІ І ФАБРЫКА ДЗЯЦЕЙ

АНДРЭЙ: — Ад часу як сьведамыя людзі жывуць на зямлі, гэтыя дзьве «фабрыкі» працуюць без перапынку. Зь бегам часу іх праца ўзрастала больш-менш раўнамерна; аднак людзі радзіліся шыбчэй як паміралі. Тады фабрыка сьмерці паклікала сабе на дапамогу розныя хваробы, заразы і **вайну**.

ЗАХАР: — Стой! Што ты пачаў гаманіць — нешта вельмі дзівоснае?

АНДРЭЙ: — Прашу Вас цярпліва слухаць! Хачу Вам уканцы нашых дыспутаў прачытаць лекцыю аб дзьвюх «фабрыках», каб дакладна выясьніць усю справу.

ЗАХАР: — Добра, чытай лекцыю! Калі цікавая, дык драмаць ня буду.

АНДРЭЙ: — Войны здаўна так церабілі людзей, што — здавалася — можа загінуць чалавечы род! Аднак пасьля кожнай вайны Фабрыка Дзяцей адразу надрабляла страты зь вялікай лішкай.

Гэты стан трываў тысячы-тысячы гадоў. Але цяпер увайшлі зусім новыя фактары: навука зрабіла такі поступ, што пачала перамагаць найбольшыя заразныя хваробы — халеру, чуму, воспу, тыфус і іншыя.

Даўней Фабрыка Сьмерці мела вялікае жніво сярод маладога пакаленьня. Цяпер, дзякуючы мэдыцыне і фармакалёгіі, заразы ў сьвеце проста занікаюць, а жыцьцё людзей працягваецца да глыбокае старасьці. Значыць, сьмерць магла астацца безработнай.

Аднак у канцы вайны ў 1945 г. навука дала яшчэ большую помач Фабрыцы Сьмерці: вучоныя кончылі тады пробы з атамнай **бомбай** і ўвялі яе ў практыку супраць Японіі (Гірашыма, Нагасакі). Значыць, калі цяпер узьнікне новая сусьветная вайна, дык атамная зброя — бомбы і ракеты — атамныя, вадорныя, кабальтавыя — наскрозь вынішчаць варожыя староны, а рэшту сьвету зачадзяць атамнай атрутай ... Гэта будзе мучэньне аж да сьмерці, якога мы не трапім апісаць!

ЗАХАР: — Дык няўжо-ж суджана загінуць нашаму народу?

АНДРЭЙ: — Няведама, але магчыма. Бог можа дапусьціць, каб людзі, самі сябе асьляпіўшы, ўваліліся ў прорву. Можа дзе астануцца — на поўначы, ці ў Акеаніі — якія адзіночныя сем'і? А гэтыя за некалька тысяч гадоў, адзічэўшы нанава і размнажыўшыся, зноў будуць адкрываць Амэрыку ...

ЗАХАР: — Ці на ўсё гэта няма ўжо ніякае рады?

АНДРЭЙ: — Якая рада? Да ўсяго прылучаецца новы — неспадзяваны — фактар, **голад**! І такі голад, якому нельга даць рады, бо Фабрыка Дзяцей засыпае сьвет нязьмернай прадукцыяй. І чым больш множыцца чалавечы род, тым трудней змагацца з голадам.

А вось апошняя статыстыка гаворыць коратка: «Паўсьвету недаядае, а адна цьвертка галодная зусім!» Толькі адна цьвертка есьць дасыта; дык ці-ж мы можам назваць сябе шчасьлівымі і бясьпечнымі?

Значыць, мы з усёю нашаю навукай — павінны ўрэшце зразумець, што супраць голаду і супраць атамнай энэргіі ніякая мэдыцына — дахтары і аптэкі — не памогуць! Даходзім да самага берагу прорвы — аж галава кружыцца ...

Не надарэмна кажа прымаўка: «Каго Бог захоча пакараць, таму адыймае розум». А гэтая прымаўка стасуецца да цэлых народаў. І вось бачым, што наш сьвет пачаў траціць розум.

ЗАХАР: — Што кажаш? Гавары ясьней, бо ўжо ў мяне ад страху валасы падняліся на лысай галаве!

АНДРЭЙ: — Дык слухайце, ці-ж ня праўда?

У такім крытычным часе, калі трэба нагла шукаць ратунку ад голаду, калі трэба нішчыць награмаджаныя бомбы-сьмерці, калі навука павінна прылажыць усю сілу розуму для дабра і жыцьця людзей, калі дзяржавы і ўлады павінны ставіць на перагаворы самых мудрэйшых міністраў, — дык што-ж мы бачым? ...

МЫ БАЧЫМ,

што ўрады вядуць перамовы няшчыра — адкладаюць і адны другіх зводзяць,

што людзі ўсяго сьвету ня цікавяцца ні вайной, ні мірам, а шукаюць разрыўкі і сэнсацыі, і

што найглыбейшая навука — матэматыка, фізыка, хімія — словам, зэніт людзкога розуму — ў апошніх часох зыходзіць з розуму — навука АШАЛЕЛА!

ЗАХАР: — Як-то, кажаш, ашалела ? !

АНДРЭЙ: — Ну, бо падумайце! Што-б Вы сказалі, каб пажарная каманда, замест гасіць пажар, сама пачала наўкол падпаліваць горад?

каб дахтары ў шпіталі, замест ратаваць хворых, гуртам пабеглі рэзаць іх па горле?

каб капітан — у ясны дзень і бяз ніякай прычыны — загадаў адчыніць люкі і тапіць параплаў з усім народам — пасярод акіяну ? . . .

ЗАХАР: — Не, такога вар'яцтва ня бывае!

АНДРЭЙ: — Цяпер мы дажылі да самага найгоршага вар'яцтва, бо ВЫСОКАЯ НАВУКА найгоршыя бомбы яшчэ ўзмацняе і ўсьцяж множыць...

ЗАХАР: — Ах, Божа мой! да чаго яны давядуць?

АНДРЭЙ: — Мала таго, што на зямлі, і пад зямлёю, пад вадою, ў стратасфэры ставяцца сховы для ракетных і атамных бомбаў, але творацца праекты, каб на месяцы і ў міжплянэтным прасторы інсталяваць станцыі для такіх самых супэр-бомбаў . . .

ЗАХАР: — Ну, як так, то нашая мізэрная плянэта ніяк ня выкруціцца ад катастрофы!

АНДРЭЙ: — Адным словам, грэшныя людзі — ў нейкім дзіўным засьляпленьні — імкнуцца самі прысьпяшыць тое, чым пагражаў Госпадзь: «І будуць знакі на сонцы, месяцы і зорах, а на зямлі туга ў народаў ад разрухі, і зараве і забушуе мора. І будуць пруцянець людзі ад страху і чаканьня таго, што прыйдзе на сусьвет, бо нябесныя сілы захістаюцца». (Лука 21, 25-26).

«І ўраз-жа пасьля тугі гэных дзён сонца зьмеркне і месяц ня дасьць свайго сьвятла, і зоры спадуць з неба, і сілы нябесныя ўзварушацца». (Матв. 24, 29).

ЗАХАР: — І чаго тыя вучоныя так сьпяшаюцца, каб скарэй нас і сябе, і сваіх дзяцей і ўсё чалавецтва загубіць з аднаго маху? Сапраўды, гэта ўжо ня бомбы, але сам чорт-Антыхрыст, які туманіць мудрых вучоных.

І што іх пабуджае да такога ліха?

Няўжо грошы? — Але што з тых грошаў, калі і самі з тым усім згінуць?

Няўжо слава? — Але што з такой славы, калі пойдуць з гэтым грахом на Страшны Божы Суд, самі той Суд прысьпешыўшы?

Няўжо ідэя высокай навукі? — Але што з той навукі, калі загіне разам з цэлым сьветам ? . .

АНДРЭЙ: — І вось на арэну няшчаснага сьвету выступае ВАТЫКАНСКІ САБОР: разважае і гаворыць ад Імя БОГА і ад імя ўсяго чалаецтва. «Хто вас слухае, Мяне слухае», сказаў Госпадзь. А біскупы-насьледнікі Апосталаў. — І Сабор бароніць нашае жыцьцё, а жыцьцё ёсьць — найдаражэйшы дачасны скарб.

І ўявіце сабе, Дарагія Браты-Сёстры, што ЗЯМЛЯ, — раскошная і цьвітучая, кіпучая жыцьцём чалавечым, зьвярыным і расьлінным, — пакрыецца трупамі! Гэта будзе валадарства ФАБРЫКІ СЬМЕРЦІ . . . Такі ганебны канец сьвету будзе заплатай фальшывай навукі і палітыкі! Не дай, Добры Божа, нам гэтага дачакаць і дасьведчыць. —

Дык увесь свет кіруе свае думкі і вочы да ПАЎЛА VI-га і да САБОРУ, каб разважна і з малітваю да ЎСЁМАГУТНАГА БОГА вялі дыскусію, ведаючы, што кажны сам і ўсе разам адкажуць у сумленьні перад Богам і людзьмі.

І зара патрэбна КАНФЭРЭНЦЫЯ прадстаўнікоў ЦЭРКВАЎ і РЭЛІГІЯЎ, НАВУКІ і ЎРАДАЎ, каб разважыць ратунак для ўсяго сьвету і даць рашучыя пастановы і так увайсьці ў НОВУЮ ЭПОХУ.

Тут адразу выплываюць усе справы, якіх нельга ні забывацца, ні абыйсьці, ні адлажыць, бо яны шыбка нарастаюць і прыбліжаюць кастрофу:

1) Як перамагчы голад ?

2) як зьнішчыць бомбы?

3) як паўстрымаць збраеньне і вайну?

4) як стварыць супольнасьць усіх народаў?

5) як рэгуляваць Фабрыку Дзяцай?

6) як скіраваць навуку на карысьць — замест на згубу людзей?

*

ЗАХАР: — Вельмі дзякую за лекцыю і за ўсю пройдзеную дарогу ў нашай дыскусіі!

АНДРЭЙ: — А я апэлюю да людзей ДОБРАЕ ВОЛІ, каб улучыліся ў акцыю ратунку, кладучы перад Богам ахвяру з сябе, (глядзі арт. «ЖЫЦЬЦЁ або СЬМЕРЦЬ» і «БОЖЫ ГОЛАС» у № 5!). Мы, веруючыя людзі, разумеем, што людзкая акцыя, бяз помачы Божай, ня будзе эфэктоўнай, бо толькі «Бог наш — прытулак і сіла»! (Пс. 45, 1). «Дзеля таго ня будзем баяцца, калі ўзрушыцца зямля», кажа далей Псальмісты. І ўсё няхай будзе на

НАЙБОЛЬШУЮ БОЖУЮ ХВАЛУ!

# «ПЕРАМОГА БУДЗЕ НАШАЯ»

I. ПРЭЗЫДЭНТ ЗАХАДУ
I ПРАДСТАЎНІК ВЫСОКАЕ НАВУКІ

ПРЭЗ.: — Колькі ў нас бомбаў «Супэр» для Савецкага Саюзу?

ВЫС. НАВУКА: — На Расейскую Рэспубліку — на 15 вялікіх гарадоў ... №. (Вось тут у канвэрце лік — сакрэтна — пад пячацямі!).

На саюзныя рэспублікі ... №.

На сатэлітаў і на іх прыяцеляў ... №.

ПРЭЗ.: — Якой сілы гэтыя бомбы?

ВЫС. НАВУКА: — У нас усё разьмерана тасоўна да тэрыторыі і народу.

ПРЭЗ.: — Які прадбачыцца вынік?

ВЫС. НАВУКА: — Сьмерць усякаму жыцьцю на 25 год! Самая шчасьлівая будзе Аўстралія, ў якой жыцьцё можа пратрываць да 10-ці гадоў.

Адным словам, катастрофа ў розных фазах абыйме больш мільярдаў людзей, аднак перамога будзе н а ш а я!

ПРЭЗ.: — Але мы самі як?

ВЫС. НАВУКА: — Мы павінны ратавацца! Сховішча на поўначы Аляскі ўжо гатовае:

Харч і ежа, электрыка, радыё і скафандры — ўсё абасьпечана на 25 гадоў.

Увесь наш урад і Партыя маюць вызначаныя сабе месцы. Нават будзе магчымы там спорт і забавы. Лекарская і клінічная апека — таксама.

ПРЭЗ.: — Дзякую, о кей!

II. МАСКОЎСКАЯ ТРОЙКА — НАРАДА

БРЭЖ.: — Даю слова Прадстаўніку Высокае Навукі, калі ласка!

ВЫС. НАВУКА: — Усё гатова: СУПЭР-БОМБЫ ... ў нас на 25% менш чым на Захадзе, затое на 33% мацнейшыя.

БРЭЖ.: — Дзякую! Цяпер гаворыць Прадстаўнік ШТАБУ ПАДСЛУХУ:

ПАДСЛУХ: — (Чытае размову Прэз. Захаду з Высокаю Навукай).

КАС.: — Як могучы, трэба нам апярадзіць іхнюю атаку!

МІК.: — Я раджу:

1) Трэба загадзя падабраць адпаведны час атакі,

2) Перш трэ' зрабіць ворагу вялікую ўступку на Канфэрэнцыі,

3) Уладзіць урачыстае падпісаньне ўмовы — пад якоесь Заходняе Сьвята,

4) Не шкадаваць грошаў на выпіўку для варожых дыпляматаў і ўрадоўцаў,

5) Знайсьці прэтэкст, каб нашыя дэлегаты адтуль перш вылецелі,

6) Ракетамі, бомбамі з усіх бакоў разьбіць варожыя сталіцы, атомныя арсэналы і сховішча на Алясцы.

БРЭЖ.: — Плян практычны, але трудны. Прапаную назначыць Рабочы Камітэт: увойдуць усе прыусотныя і ... сакрэт пад карай сьмерці!

КАС.: — Прапаную адразу прыступіць да працы, каб вораг не апярадзіў! І пытаньне: якія прадбачацца вынікі нашае акцыі?

В. НАВУКА: — Жыцьцё ў ворага загіне. Атручэньне абойме ўсю плянэту, але п е р а м о г а будзе н а ш а я!

БРЭЖ.: — А як пратрываем мы?

ВЫС. НАВУКА: — Пільна будуецца сховішча на Ледавітым акіяне ў ... Усё прыгатавана на 33 гады.

БРЭЖ.: — Вельмі важна!

КАС.: — Вельмі пахвальна, але ...

БРЭЖ.: — (Даў знак: «Ціха!» Шапталі доўга, але ў пратакол ня пісалі).

---

**Я. Савіцкі**

# ПІЙ XII І ЖЫДЫ

«Чаму Пій XII маўчаў?»

Такі закід ня ціхне, але пашыраецца і мацнее. Кажуць: «Папа павінен быў публічна выступіць — асудзіць Гітлера і заклеймаваць перад усім сьветам — у абароне жыдоў!»

На гэта адкажам:

Скончыліся тыя часы, калі папы выступалі як с у д з ь д з і цароў і імпэратараў: цяпер лепш будзе, калі папа ня будзе мяшацца ў асабістыя справы вялікіх гэтага сьвету. Бо і Сам Хрыстос казаў аб Сабе: «Не паслаў Бог Сына Свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет» (Ян 3, 17). Папа мае абавязак заклікаць да справядлівасьці, да праўды, да міласэрдзя; павінен такжа кляйміць грахі, злачынствы і крыўды, але не павінен асуджаць асобаў. Сам Хрыстос перад Гэрадам маўчаў, з Пілатам гаварыў, але не асудзіў ні аднаго, ні другога і не пакараў іх, хоць меў на гэта досыць сілы. Нават да ворага-фарызэя пайшоў, як быў запрошаны, на вячэру; тады фарызэі плянавалі Хрысту сьмерць.

Дык ці Пій XII-ты павінен быў асудзіць Гітлера? Некаторыя думаюць, што **так**! бо Гітлер з сваімі фашыстамі прычыніў страшэнныя мукі і сьмерць 6-ці мільёнам жыдоў. Гэта-ж ганебны грэх **людабойства**!

Але перш мусеў асудзіць Сталіна, калі ў 1930 г. прычыніў сьмерць ад голаду 8-мі мільёнам украінцаў, якія ня йшлі ў калгасы...

А яшчэ раней, у 1915 г., калі Энвэр-паша прычыніўся да разьні і загубы 3-х мільёнаў армян у Турцыі, дык папа Бэнэдыкт XV-ы таксама не пратэставаў.

На гэтае кажуць, што Гітлер быў каталік, значыць, быў падуладны папы Пія XII-га. — Мы на гэтае мусімо адказаць: такі Гітлер быў каталік, як Сталін праваслаўны і як Энвэр-паша магамэтанін, бо ўсе яны аднолькава былі атэістымі і бязбожнікамі. І характэрна тое, што супраць Пія XII выступаюць ня жыды, але іншыя з нападкамі за зьверства Гітлера і так прыкрываюць Сталіна. Якая тут прычына?..

*

Трэба ўспомніць, што папа Пій XII усё-ж выступаў у абароне жыдоў, аднак выступаў у ролі **самараніна**, а ня ў ролі **судзьдзі**. І вось факты:

1) У 1945 г. Сусьветны Жыдоўскі Кангрэс высказаў папе падзяку за яго акцыю міласэрдзя. І неаднойчы прадстаўнікі жыдоўскага народу зьяўляліся пасьля вайны ў Ватыкане, каб падзякаваць Пію XII за абарону.

2) Папа загадваў выдаваць загрожаным жыдом ватыканскія пашпарты, каб аблягчыць ім уцечку.

3) Жыды хаваліся ад перасьледу ў самы Ватыкан.

4) Было загадана кляштарам і сьвятаром, каб хавалі і ратавалі жыдоў. Нярэдка здаралася, што жыды бывалі адзетыя ў манаскую адзежу і прыняты ў законны строй, нават у набажэнства, каб схаваць іх паходжаньне, і нават у манастырох кляўзуровых, дзе ўступ чужым людзям, асабліва няхрышчаным, сурова забаронены. Бо любоў бліжняга важнейшая ад рэгулы законнай.

5) Папскія Нунцыятуры мелі загад Пія XII — бараніць і ратаваць жыдоў, асабліва ў Чэхаславаччыі, Румуніі, Баўгарыі, Грэцыі. І у Грэцыі, дзе Нунцый быў Язэп Ронкаллі (пазьн. папа Ян XXIII), ўдалося выратаваць і пракарміць тысячы жыдоў.

Гэтак каталіцкае духавенства і вернікі ратавалі і хавалі жыдоў зь вялікай рызыкай сваёй свабоды і жыцьця.

*

З другога боку, калі-б папа выступіў публічна супраць Гітлера, дык ці гэта магло-б аблягчыць няшчасную долю жыдоў? Няведама, але мусіць вынік быў-бы яшчэ горшы. Гэтак думаюць самі жыды.

А што тады сказалі-б цяперашнія абаронцы жыдоў? Пэўна сказалі-б: «чаго папа мяшаўся ды прычыніўся да большага людабойства?...»

Кажуць, што папа баяўся, каб шалёны Гітлер не накідаў бомбаў на Ватыкан. Пэўна была і такая небасьпека, але мы думаем, што папа пайшоў-бы і на такую рызыку, каб была надзея ратаваць загрожаных людзей. Пакінем лепш усю гэтую справу Самому Богу і гісторыі. Тут вялікі сорам за наш XX век. Будзе разумней запытацца самых сябе: «А што добрае робім мы для сваіх няшчасных бліжніх?»

**Г. Піхура**

# Беларускія цэннасьці у Лёндане

Беларуская бібліятэка ў Марыян Гаўз у Лёндане зьяўляецца ўжо добра ведамай установай. Яна мае больш чым 6 000 кнігаў (з гэтага каля 1500 у беларускай мове) і ёсьць без сумніву аднэй з найбагацейшых калекцыяў матарыялаў з галіны беларусаведы ў заходнім сьвеце. Мае бібліятэка нямала рэдкіх кнігаў, як напрыклад, Гісторыя Літвы (у лацінскай мове) Каяловіча, выданая ў Антвэрпэне у 1669 г.; «Пёснкі веснячэ знад Немна і Дзьвіны»» Я. Чачота (Вільня 1846); Беларускі Зборнік Раманава (Кіеў 1886-87); «Збюр жэчы бялорускіх» Адама Гурыновіча (Кракаў 1893) і шмат іншых. Варта тут успомніць таксама аб гадавіках беларускіх часапісаў выданых перад вайною ў Вільні (Крыніца, Калосьсе, Шлях Моладзі).

Хаця яшчэ рана гаварыць аб беларускім музэі, але ўжо цяпер у Марын Гаўз і ў Школе сьв. Кірыла знаходзіцца шмат цікавых гістарычных і культурных беларускіх забыткаў, сярод іх ёсьць такія рэдкасьці, як сярэбраны поўгрош Вялікага Княства Літоўска з 1521 г. з пагоняй і надпісам: „Moneta Sigismundi Magni Ducis Litvandie“. Найбольш каштоўным экспанатам зьяўляецца однак цудоўны слуцкі пояс работы Мажарскага з канца 18-га стаг. Сярод прыкладаў народнага мастацтва на ўвагу заслугоўвае вялікоднае яечка з Меншчыны з пачатку гэтага стагодзьдзя,




**Горадня.** Гравюра з кнігі Брауна Civitates Orbis Terrarum, выданай у Кэльне у 1576 г. (З калекцыі Школы сьв. Кірыла Тураўскага у Лёндане)

аблітае воскам і упрыгожанае далікатнымі кветкавымі ўзорамі з маленькіх пацеркаў. Ёсьць тут таксама дзяружкі і настольнікі з аколіцаў Воршы, Вільні, Саколкі і Аўгустава і ганчарскія вырабы з заходніх частак Беларусі.

Вельмі цікавай ёсьць калекцыя беларускіх паштовых марак, выданых БНР у 1918 г. з надпісам «Беларусь». Гэтыя маркі ёсьць больш рэдкія чым другія беларускія маркі з надпісам «Асобы Атрад БНР».

Госьці ў Школе сьв. Кірыла маюць нагоду падзіўляць прыгожую калекцыю мапаў Вялікага Княства Літоўскага з 16-18 стагодзьдзяў, а таксама старыя гравюры беларускіх гарадоў. Сярод гэтых апошніх зьвяртае на сябе ўвагу гравюра Горадні, выкананая ў 1568 г. і выданая Браўнам у ягонай кнізе „Civitates Orbis Terrarum“ ў Кэльне ў 1576 г.

Ёсьць тут таксама і творы сучасных беларускіх мастакоў: абразы Віктара Жаўняровіча, Пётры Міpановіча, выдатныя гравюры і разба ў дрэве Аголя Валё (Валовіча). Апошнім здабыткам зьяўляецца выдатная мазаіка Пагоні работы сп. Міхася Наўмовіча. Гэты твор ёсьць дарам мастака для Школы сьв. Кірыла.

Беларуская царква сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз ёсьць вельмі багатая іконамі. Сярод іх ёсьць прыгожая ікона Смаленскай Адэгітрыі з 17-га стаг. З царкоўных каштоўнасьцяў, якія ёсьць у ўжытку да сяньняшняга дня, трэба ўспомніць нагрудны крыж Архімандрыта Фабіяна Абрамовіча (1884-1940) і багатую старую чашу — дар амэрыканскага біскупа Фултан Шына Ўладыку Чаславу Сіповічу. Узрушаючай рэліквіяй зьяўляюцца просьценькі карпарал і дзеравянае пудэлачка, якое служыла а. Язэпу Гэрманавічу дзеля перахоўваньня сьв. Дароў у часе, калі ён быў вязьнем у савецкіх лагерах (1948-1955).

Ці беларуская біблятэка і музэй будуць разрастацца ў будучыні, у вялікай меры залежыць ад шчодрасьці і зразуменьня асобаў, якія маюць шмат цікавых рэчаў і якія гатовыя ахвяраваць іх дзеля таго, каб шырокія колы чужынцаў і асабліва беларускай моладзі, што радзілася на чужыне, мелі нагоду пазнаёміцца з скарбамі беларускай культуры. Усе дары будуць прыймацца з удзячнасьцю.

# Трагічны юбілей (50) Армянскага народу

Ад 24. IV, 1915 году туркі зьнішчылі праз 5 гадоў 3 мільёны армян: у гэтым ліку 60% жанчын і дзяцей.

Калі мы прыязна прыймаем братняе спачуваньне ў нашых нешчасьцях, дык маемо чалавечы і хрысьціянскі абавязак выразіць і сказаць сваё добрае слова армянам, якія ў гэтым годзе абходзяць свой трагічны юбілей-пам'ятку загубы большай часткі народу. Але трэба нам аб гэтым ведаць.

9/10 тэрыторыі армян было захоплена Турцыяй, а 1/10 належыла да Пэрсіі: гэтую частку ў 1828 г. прылучыла да сябе Расея. Апрача таго армяне былі рассыпаныя па ўсёй Турцыі.

За султана Абдул-Гаміда (1976) туркі 8 разоў рэзалі армян: у аднэй толькі такой напасьці загінула 300 тысяч людзей. Пасьля ўпадку Абдул-Гаміда ў 1909 было яшчэ армян у Турцыі 4 мільёны і на эміграцыі адзін мільён (гэта былі найбольш уцекачы з Турцыі).

Абдул-Гаміда скінулі «малада-туркі» і паставілі султанам Магамэта V, які ім цалкам быў паслушны, але доля армян не папраўілася.

У 1913 абняў уладу трыумвірат: Энвэр-паша, Таляат-бэй і Джэмаль-паша. Гэтыя вонкава дагаварыліся з армянамі і супакоілі іх, што будзе ўсё добра, але таёмна шыкавалі ім поўную загубу. Калі зімою (1914-1915) туркі ўступілі ў вайну, памагаючы, немцам, супраць Расеі, армяне верна біліся ў абароне Турцыі. І калі Галоўна-камандуючы, Энвэрпаша, трапіў у расейскае акружэньне з вялікай часткай арміі, армяне ў геройскай афэнзыве разарвалі варожы ланцуг і зводьнілі туркаў. Пасьля Энвэр-паша падзякаваў «нашаму вернаму армянскаму народу».

Аднак партыя «малада-турак» шыкавала людабойства. І вось пасьля войстрай зімы 1915 году наступіла гарачая вясна. Дзень 24-га красавіка быў пачаткам зьнішчэньня армянскага народу. Маладыя мужчыны былі на вайне, старэйшыя былі мабілізаваны на стратэгічныя работы: у армянскіх сялібах аставаліся самыя старыя мужчыны, а такжа жанчыны і дзеці. Усім гэтым сем'ям было загадана:

1) З ручным багажом выйсьці на агульную зборку — па вёсках і пасёлках.

2) Ісьці пехатою на «новую сялібу' (ў Сырыйскую пустыню).

3) Ніякіх вазоў, ні быдла з сабою не браць.

4) Армянскія хаты і землі і ўсю маемасьць забяруць назначаныя турэцкія асаднікі.

У адзін дзень і гадзіну ўва ўсей турэцкай імпэрыі былі выгнаныя армяне з дамоў, акружаныя паліцыяй і войскам і — без яды і без вады — гнаныя ў далёкую пустыню. Ведама, гінулі масамі ў дарозе старыя і малыя, бо туркі выганялі абсалютна ўсіх, каго не пасьпелі зарэзаць у хатах — таксама хворых із больніцаў, інвалідаў з апякунчых дамоў і сіротаў з прытулкаў. Паліцыя дабівала слабых у дарозе, а банды злачынцаў бязкарна абдзіралі пакінутых жывых і памёршых.

Шмат у якіх вёсках турэцкія вайсковыя часткі і цывільныя азьвярэлыя туркі вырэзывалі няшчадна армян нажамі.

Савецкая Энцыклёпэдыя гаворыць аб гэтым коратка (II выд. 1950, А-бач. 65): «У працягу 1915-16 г. туркі выразалі да 1 мільёна армян, гэтулькі-ж было загнана ў пустыні Арабіі, дзе яны масамі гінулі . . .»

Некаторыя армянскія мястэчкі і пасёлкі бараніліся, дык на іх ішло войска з ручной зброяй і артылерыяй.

*

Трэба аддаць справядлівасьць тым веруючым магамэтанам-туркам, якія асуджалі зьверства бязбожнага ўраду малада-туркаў і фанатычных суродзічаў: шмат дзе стараліся прыхаваць армян, асабліва дзяцей, падносіць няшчасным ваду і хлеб, нават хараніць забіваных. Але сіла паліцыі і войска давяршыла людабойства. Хоць у абароне выступаў просты веруючы народ, старая шляхта і духавенства (дэрвішы), аднак партыйны і нацыянальны шавінізм перамог і дакончыў зьнішчэньне армян.

Рэшткі змучаных у дарозе людзей, што дайшлі да назначаных лягераў у пустыні, ведама, мусілі там змарнець ад голаду, смагі і заразных хваробаў.

*

Некаторых мацнейшых хлапцоў і старшых мужчын вырывалі з гнаных грамадаў і пасылалі ў рабочыя «дружыны» на будову дарогаў. Аднак пасьля кончанай работы іх усіх выбівалі. Такі самы лёс спаткаў пасьля вайны армянаў-жаўнераў, нават адзначаных герояў — іх усіх расстралялі. А турэцкі міністар сказаў у парляманце (Таляат-бэй): «Армянскае справы ўжо няма, бо і армян ужо няма!» Але падчас бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі (1917) туркі перарвалі расейскі фронт і пайшлі на Каўказ у рас. Арменію і Азарбэйджан, рэжучы армян, дзе толькі іх знаходзілі (у гор. Баку 75 тысяч!).

У 1918 г. ў гор. Мудрос, на востраве Лемнос, Турцыя падпісала капітуляцыю: тады распалася ўся турэцкая векавая імпэрыя. Арабы пачалі арганізаваць свае незалежныя дзяржавы. Тады ў гор. Сэрвэс 10, VIII, 1920 году падпісалі з Турцыяй мір Вялікія Дзяржавы — Англія, Францыя, Японія, Італія і меншыя — Армэнія, Бэльгія, Чэхаславацыя, Грэцыя, Югаславія, Польшча, Партугалія і Румунія.

Армэніі прызналі ўсе ейныя землі ад Турцыі; але народу было там так мала, што ня было каму ні гаспадарыць, ні бараніць краю. Уся незалежнасьць краю асталася толькі на паперы: Злучаныя Штаты яе не падтрымалі, Англія і Францыя былі змучаныя вайною і не захацелі гэтым займацца. Туркі ізноў пайшлі на Армэнію з паўдня, а Бальшавікі з поўначы. Урэшце Камель-паша (Ататюрк), які стаў нацыянальным дыктатарам, дамовіўся з бальшавікамі аб падзеле Армэніі. Толькі частка ўвайшла ў Савецкі Саюз як «незалежная» армянская рэспубліка. Слаўная гара Арарат і ўся Армэнія перайшла пад уладу Турцыі.

*

Армяне былі так прывязаныя да хрысьціянскай веры і Царквы, што толькі вельмі рэдка пераходзілі ў магамэтанства, каб ратаваць жыцьцё. Здараліся таксама выпадкі, што турэцкія злачынцы падчас крыжовай дарогі ў пустыню вырывалі з грамадаў дзяўчат і маладых жанчын: пасьля ганебнага гвалту і зьнявагі іх забівалі, або — прымусіўшы да зьмены веры — аддавалі ў гарэмы.

Зьверствы Гітлера і фашыстаў былі адпомшчаны вайною і пасьля вайны: пасьля 20-ці гадоў суды на іх яшчэ ня скончаны. На месцы найбольшых лягераў, дзе гарэлі печы людабойства, ўзносяцца памятнікі і сьвятыні (Дахаў, Аасьвенцім...), але зьверствы Сталіна і камуністаў, Энвэр-пашы і малада-туркаў яшчэ «клічуць помсты да неба».

# З Царкоўнага жыцьця

ВАТЫКАН. Атэнагорас, Патрыярх Канстантынопаля, прыслаў папе Паўлу VI наступную тэлеграму якая была прачытана на Саборы 15 верасьня:

«Пры аказіі адчыненьне IV сэсіі Ватыканскага II Сабору мы пасылаем Вашай Наймілейшай і Паважанай Сьвятасьці нашыя братнія павіншаваньні і нашыя пажаданьні, каб вашая шчасьлівая і паважная праца завяршылася на карысьць усяе Царквы Госпада Нашага Ісуса Хрыста».

У адказ Павал VI адрасаваў Патрыярху тэлеграму такую:

«Пасланьне ,якое Вашая Сьвятасьць нам адрасавала і якое было прачытана на пачатку IV-ае сэсіі Сабору, нас вельмі ўзрушыла. Мы жадаем разам з Вамі, каб саборную працу Бог багаславіў і каб завяршылася на добрую карысьць Хрыстовае Царквы».

*

«ДЫЯЛЕГ» з АТЭІСТАМІ. Павал VI ўфармаваў *Сэкрэтарыят для Няверуючых.* Гэта ёсьць дзіўная проба — аж ня верыцца, што будзе магчыма з атэістамі да чагосьці дагаварыцца! Але гэта ня ёсьць змаганьне з атэізмам — толькі думка, каб залагодзіць узаемную варожасьць і недавер.

Атэізм праяўляецца ў трох формах:

1) Абыякавасьць да рэлігіі,

2) Навуковы атэізм і

3) Палітычны атэізм.

Акцыя Сэкрэтарыяту будзе вельмі труднай. Кардынал Кёніг — аўстрыяцкі — тлумачыць (ён назначаны прэзэсам Сэкрэтарыяту), што Царква ня йдзе супраць атэістаў, але хоча ісьці да атэістаў. Яны, як людзі, ёсьць нашыя браты. Тымчасам акцыя стала такой труднай, бо набралася маса перашкодаў, найбольш палітычных. Царква шукае зь імі спакойнага, рачовага спатканьня і дыялёгу, бо ёсьць і між імі людзі поўныя добрай волі.

Якраз цяпер здарыліся некаторыя новыя міжнародныя факты: часовая ўгода Ватыкану з мадзярскім урадам, размовы аб угодзе з Югаславіяй і Румуніяй, а такжа зварот улева ў Італіі.

Ведама, што перад сьмерцяй лідар італьянскіх камуністаў Толіятті раіў сваім таварышам уваходзіць у дыялёг з каталікамі, а папа Павал VI прыняў на аўдыенцыі правадыра сацыялістаў Нэнні.

Пэўна, што першая заслуга такога павароту належыць да Добрага папы Яна XXIII: ён ясна казаў, што дабро, зробленае нашым нялюбым праціўнікам, ня траціць сваёй вартасьці і што з такімі людзьмі трэба супрацоўнічаць.

Тут важнае яшчэ і тое, што Павал VI не сарваў тае тактыкі свайго папярэдніка, але яшчэ паглыбіў і пашырыў.

АФРЫКА. Вельмі буйна ўзрастае каталіцкая Царква ў Афрыцы, асабліва законнае (манаскае) жыцьцё. Перад вайной былі там толькі два кляштары (манастыры) суровай рэгулы — контэмпляцыйныя, а цяпер іх 38 (23 мужчынскія і 15 жаночых). У навароце на хрысьціянства Афрыка ідзе па дарозе Ірляндыі, калі там быў апосталам сьв. Патрык і па дарозе Нямеччыны, калі там зьявіўся сьв. Баніфацы.

*

МАДАГАСКАР. Каталікоў там 1 мільён 200 тысяч, 16 біскупаў, зь якіх пяць нэграў.

ДАГАМЭЙ. Даўнейшая француская калёнія. Дастала поўную незалежнасьць, але да поўнага шчасьця далёка: паўночная палавіна вельмі запушчана. Хоць грунт прыдатны для земляробства, але бракуе культуры і людзі рэдка могуць сабе пазволіць есьці двойчы ў дзень. Штогод суша даводзіць да голаду каля 600 тысяч народу і людзі ня ўмеюць бараніцца ад няшчасьця. Мясцовы арцыбіскуп Гаттэн, сам нэгр, стараецца арганізаваць паступовыя фармы, каб падняць узровень мясцовай гаспадаркі.

*

МАРОКО. Тут існуе поўная свабода веры: духавенства, а такжа манахі могуць свабодна працаваць на карысьць мараканскага народу, асабліва ў шпіталях, толькі . . . існуе самая войстрая забарона ўсякае місыйнае дзейнасьці між мусульманамі. Нельга ані вучыць, ані хрысьціць магамэтанаў пад самай войстрай карай!

*

ТУНІС. Вялікі муфті Тунісу, шэйк Фадгэль бэн Ашун, жадае навязаць дыялёг між Каталіцкай Царквою і сусьветнымі органамі Ісляму. Ён кажа, што было-б патрэба супольным стараньнем дайсьці да лепшага ўзаемнага пазнаньня і зразуменьня.

*

АЗІЯ — ЯПОНІЯ: 50 год каталіцкага унівэрсытэту ў Токіо. Залажылі яго нямецкія езуіты: спачатку было 80 студэнтаў. Але І-ая вайна і землятрасеньне ў Токіо ў 1923 сталі на перашкодзе. Лекцыі праз 9 гадоў адбываліся ў дзераўляных бараках. Пасьля ІІ-ая вайна ізноў давяла да стагнацыі. Аднак пасьля вайны пачаўся павольны росквіт вучэльні: унівэрсытэт стаў адным з самых лепшых на сьвеце. Цяпер лік студэнтаў даходзіць да 6-ці тысяч! Каталікоў на ім толькі 10%. Кожны год зьяўляецца больш 10-ці тысяч кандыдатаў, але немагчыма прыняць больш як 1400.

На памятку працы на місіі а. П. Аррупэ, што выбраны ў Рыме генэралам закону езуітаў, а прабыў у Японіі 27 гадоў і перажыў пэрыяд атамнай бомбы у Гірашыме, японскія каталікі пастанавілі выбудаваць у тым горадзе касьцёл імяні сьв. Ігната, заснавальніка аа. езуітаў.

ІНДЫЯ. Голад узрастае — штогод прыбывае 3% народу, значыць, каля 12 мільёнаў! Рэформы гаспадаркі, якія праводзіць урад, усё ня могуць пасьпець, каб пракарміць насельніцтва. І прытым розныя клапоты, да таго й вайна з Пакістанам, значыць, трэба выдаваць грошы на ўзбраеньне.

14 галоўных языкоў. Палавіна народу поўначы гаворыць на гіндзі, але на паўдні ня хочуць яго прыняць. Падыймаецца вялікі бунт студэнтаў супраць гіндзі: дамагаюцца ангельскае мовы (ў Мадрас). Выйшла пастанова ўраду:

1) Гіндзі — урадавы,

2) Ангельскі — дапаможны і

3) Мясцовыя мовы — дапушчальныя.

Місіянэры маюць таксама вялікі клопат з такім багацьцем языкоў: няведама, якую мову ўводзіць у Літургію, бо парахвіі бываюць падзелены і адны другіх не разумеюць. Бывае, што ўводзяць ангельскую, або астаюцца пры старой лаціне.

*

ПАЎДЗ. АМЭРЫКА: КАЛЮМБІЯ. Біскуп Жырардат даў дазвол законным сёстрам (манахіням) пераносіць і даваць камунію (прычасьце) вернікам. Такі дазвол даецца таксама ў паўночнай Бразыліі, дзе ў лясох і джунглях вельмі трудная камунікацыя, асабліва ў раёне ракі Амазонкі.

*

БАЛІВІЯ. Як ведама, Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс у 1964 адбываўся ў Індыі ў Бамбэі. Чародны будзе ў Балівіі ў гор. БОГОТА, у 1968 г. Арцыбіскуп Боготы кардынал *Люіс Конха* назначыў арганізацыйны Камітэт.

Пачатак Эўхарыстычных Кангрэсаў датуецца 1881 г. і спачатку адбываліся толькі ў Францыі, а пасьля звычай перайшоў на ўсе краі сьвету. Акрамя мясцовых кангрэсаў адбываюцца міжнародныя.

*

БРАЗЫЛІЯ. Біскупы сабраны ў гор. Сао Паўлё пастанавілі, што дазволена вернікам споўніць абрад сьв. Літургіі ў суботу па паўдні, замест нядзелі. Гэтакі дазвол праўдападобна будзе дапушчаны на ўсім сьвеце, каб народ не аставаўся бяз сьв. Імшы і наагул без малітвы.

У дыяцэзіі Кратэус новы біскуп Фрагоар наракае на брак духавенства: на 250 тысяч народу мае 12 сьвятароў. А прастор ягонай дыяцэзіі роўны Бэльгіі на раўніне усходняе Бразыліі. Тая частка краю ведамая пад назовай «Трыкутнік голаду», бо дзеля браку дажджоў — масы народу мусяць эміграваць з свайго «Трыкутніка». Прытым брак школаў і ўсякае культуры, дык Каталіцкая Царква, пры такім браку духавенства, мусіць яшчэ займацца ратункам людзей ад голаду і ўсякага недастатку.

З НЬЮ ЁРКУ пішуць: — Адгалосак Рыму — гэта Ватыканскі павілён на сусьветнай Выстаўцы. Наведаў яго і Сьвяты Айцец, будучы зь візытай у Амэрыцы. Прыезд Паўла VI-га быў адной з найбольшых тут падзеяў, што вельмі падняло прэстыж каталіцтва. —

Нядаўна памёр наш адзін беларус — *А. Попко* — б. арганісты. — Вечная Памяць!

*

ЮГАСЛАВІЯ — ХАРВАЦЫЯ. Архібіскуп гор. Загрэб назначаны кардыналам. Калі вярнуўся з Рыму ў Загрэб адбылася вялікая ўрачыстасьць, якая супала з увядзеньнем харвацкае мовы ў сьв. Літургію — паводле новай Канстытуцыі Ватыканскага Сабору.

На традыцыйнай пілігрымцы, да каталіцкай сьвятыні Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ў Тэкіе (дыяцэзіі Д'якова) духавенства датасавала дакрэт Ватыканскага Сабору *аб лучнасьці з Праваслаўем*. У пілігрымцы былі ў вялікім ліку праваслаўныя, якія прыйшлі з сваім япіскапам і прылучыліся да каталікоў. Усе пілігрымы аднолькава — праваслаўныя і каталікі — былі дапушчаныя да споведзі і прычасьця. Праваслаўны япіскап з Карлавіц і каталіцкі япіскап з Д'якова супольна адпраўлялі публічныя малітвы ў пілігрымцы. («Глас Конціля», № 16, 22 жніўня 1965), «Ірэнікон» Том XXXVIII).

*

КОНГО. Тыднёвік «Хрысьціянская Афрыка», што выдаецца у гор. Леопольдвіль публікаваў наступнае прызнаньне катэхіста[1] з правінцыі Высокае Конго (Станлейвілль) з той правінцыі, якая вельмі цярпела падчас бунту.

Вось расказ катэхіста:

— Нашая вобласьць на некалькі месяцаў асталася без сьвятароў, бо яны былі арыштаваныя і заведзеныя воддаль ад нас. Дык шмат у якіх справах рэлігіі мы ня ведалі, што рабіць.

— Як ня было Айцоў, хрысьціяне хацелі спавядацца ў мяне. Але я ім казаў, што трэба ўзбуджаць акт дасканалага жалю за грахі; але яны прыставалі, каб казаць свае грахі мне, так як спавядаліся ў сьвятара. Я-ж ім гаварыў, што не маю права даваць ім разграшэньне. Тады яны мне казалі, што ім патрэбны вонкавы знак, каб ведаць, што Бог ім дараваў грахі. Тады я ім кажу: «Перш чым я пачну спавядаць вас, трэба, каб я сам паспавядаўся ў вас», і я высказаў галасна ўсе свае грахі перад імі.

— Тады мы адмовілі «Конфітэор», каб узбудзіць у сэрцы жаль, і я выслухаў іхню споведзь. Я гаварыў: «Няхай Бог табе даруе твае грахі!» Я не гаварыў: «Я табе адпускаю грахі твае».

*

— Тады мы адправілі Крыжовую Дарогу за пакуту, а пасьля я адмовіў малітвы перад Сьв. Камуніяй (Прычасьцем)».

Я вымыў свае рукі і я ўбраўся як сьвятар убіраецца ў закрыстыі перад Камуніяй. Як я дакрануўся да Сьвятое Гостыі, я дрыжэў вельмі моцна. У мяне з вачэй каціліся сьлёзы, калі даваў Ісуса маёй старой маме і сваёй жонцы. Я ніколі не пачуваў сябе такім хрысьціянінам, як у гэты самы мамэнт! Пасьля я не пачуваў страху, каб бунтаўшчыкі прыйшлі мяне забіць.

— Пасьля двух месяцаў няпрысутнасьці сьвятароў, калі бунтаўшчыкі пагражалі забраць маю старшую дачку замуж, я пастанавіў выдаць яе за ейнага заручанага. Мы — некалькі хрысьціян — прыйшлі да касьцёлу. Тады я загадаў сваёй дачцы і ейнаму заручанаму падыйсьці да аўтара: я ставіў пытаньні, як гэта рабіў заўсёды сьвятар; пасьля я ўсклаў свой парсьцёнак на палец заручанага і мая жонка ўсклала свой пярсьцёнак на палец нашае дачкі. І я сказаў: «Бог і ўсе мы ёсьць сьведкамі вашага хрысьціянскага шлюбу. Кахайцеся добра, каб Бог меў вас пад сваёй апекаю і вас багаславіў». Пасьля я іх пасьвяціў сьвятою вадой. Шкада, што мы ўжо ня мелі сьвятое Камуніі.

— Я запісаў прозьвішча і выдаў маладым пасьведку. І я сказаў: «Калі я буду забіты, вы пакажэце гэта сьвятару ,а ён тады адправіць за вас шлюбную Літургію».

[1] «Катэхісты» – гэта мясцовыя сьвецкія людзі, якія працуюць пры місіях і вучаць кандыдатаў да хросту.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

## ЦАРКОЎНАЯ ВЫСТАЎКА Ў ЛЁНДАНЕ

У Лёндане у часе ад 24-га кастрычніка да 7-га лістапада адбывалася выстаўка на тэму: «Царква — Божы плян для людзей». Выстаўка была зарганізаваная а. бэнэдыктынцамі з Кокфостэрс і выклікала шырокае зацікаўленьне сярод каталіцкіх, і нятолькі каталіцкіх, колаў ангельскага насельніцтва. Там былі наступныя аддзелы: Тайна Царквы, Народ Божы (Старога і Новага Запавету), герархічная структура Царквы, месца вернікаў у Царкве, усеагульнае прызваньне да сьвятасьці, законнае жыцьцё, месца Багародзіцы ў Царкве, Царква на зямлі і ў небе. У праграме былі таксама ўрачыстыя багаслужбы, даклады і т. д., між якім было ўрачыстае складаньне законных шлюбоў.

Учацьвер 28-га кастрычніка а. А. Надсон адправіў там па грэцку сьв. Літургію ў бізантыйскім абрадзе. Сьпяваў прыгожа хор зарганізаваны айцамі бэнэдыктынцамі.

Італія

## ДЫЯКАНСКІЯ СЬВЯЧАНЬНІ

У нядзелю 31-га кастрычніка ў Рыме ў царкве а. Марыянаў даст. Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў каталікоў, рукапалажыў у дыякана а. Рабэрта Тамушанскага. На Літургіі, у часе якога адбылося рукапалажэньне, саслужылі з Уладыкам аа. К. Маскалік і А. Надсон. Былі прысутныя Яго Даст. Уладыка Слоскан, Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі і даст. а. пралат Пётр Татарыновіч. Сьпяваў хор вучняў сьв. Кірыла з Лёндану, якія ў тым часе гасьцілі ў Рыме.

Айцец Тамушанскі зьяўляецца студэнтам багаслоўя ў духоўнай сэмінарыі ў Кэнігштайне ў Нямеччыне. Ён прыехаў туды ў мінулым годзе з Монтрэалю (Канада), дзе скончыў філязофскія студыі. Ён сам і ягоныя бацькі нарадзіліся ў ЗША, куды выэмігравалі ягоныя дзяды доўга перад першай сусьветнай вайною. Дзяды вывезьлі з сабою ў далёкую Амэрыку шчырую прывязанасьць і любоў да сваей бацькаўшчыны і вось гэтая любоў пачынае прыносіць цяпер свае плады ў іхнім унуку.

Новаму а. дыякану, які, як заўважыў даст. Уладыка Часлаў у сваім казаньні, праз чын рукапалажэньня ўжо назаўсёды аддаў сябе на службу Богу, жадаем найлепшых паводзінаў у навуцы і ў падрыхтоўцы да пастырскай працы сярод беларусаў, якая яго чакае ў будучыні.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ ДНІ

Некаторыя людзі зусім няслушна наракаюць на ангельскую восень. Трэба толькі ведаць спосабы, і яна можа стацца адной з найбольш прыемных пораў году. Найлепшы спосаб — гэта выехаць з Англіі на некаторы час ў паўднёвую Францыю або ў Італію ... Гэта якраз зрабілі ў гэтым годзе вучні Школы сьв. Кірыла ў Лёндане, якія, карыстаючы з кароткіх канікулаў, правялі адзін тыдзень у Рыме. (У ангельскіх школах ёсьць заўсёды кароткі перапынак у навуцы ў палове кожнай чвэрці).



*На даху базылікі сьв. Пятра*

Пасьля больш чым 24-ох гадзіннай дарогі цягніком і морам хлопцы ўпершыню пабачылі ў сыботу 30-га кастрычніка Вечны Горад, які спаткаў іх праменьнямі гарачага сонца («Як летам у Англіі» — чуліся заўвагі) і сінім небам. Адразу сталася відавочным, што плашчы і свэтры, якія ўзялі з сабою хлопцы з Лёндану, тут будуць непатрэбнымі ...

На станцыі ў Рыме ўжо чакалі хлапцоў даст. Уладыка Часлаў Сіповіч і а. Р. Тамушанскі. Усе разам паехалі ў базыліку Санта Марыя Маджорэ, каб падзякаваць Багародзіцы за шчасьлівае

падарожжа. Старая царква з 4-га стаг., захапіла хлапцоў сваей веліччу і прыгожасьцю.

На наступны дзень, у нядзелю 31-га кастрычніка, вялікая ўрачыстасьць: рукапалажэньне ў дыякана а. Робэрта Тамушанскага. Хлопцы асабліва шчасьлівыя, што могуць быць прысутнымі на гэтай урачыстасьці, бо яны добра ведаюць і любяць а. Робэрта, які праводзіць усе свае канікулы ў Школе сьв. Кірыла.



*Сярод руінаў Форум Романум*

Пасьля абеду — першае знаёмства з Рымам. Усе паехалі ў цудоўны парк Пінчыё (дзе адзін вучань, загледзеўшыся на тэатр марыянэтак, згубіўся . . .), пабачылі Гішпанскую плошчу з яе слаўнымі сходамі, Капітоль, Мамэртынскую вязьніцу, дзе былі вязьнямі сьв. апосталы Пятро і Павал, і, наканец, Калясэум. Хлопцы з подзівам хадзілі між мурамі гэтага старога рымскага тэатру, які быў збудаваны рукамі жыдоўскіх нявольнікаў, прывезеных Тытусам пасьля разбурэньня Ерузаліму і які быў месцам столькіх жудасных людзкіх цярпеньняў дзеля пацяшэньня масаў. Просты крыж, які там цяпер знайходзіцца, напамінае наведвальнікам аб масах хрысьціянскіх мучанікаў, якія, хутчэй чым адрачыся Хрыста, выбралі жудасную сьмерць на арэне.

На наступны дзень, у панядзелак, паездка ў катакомбы. Айцец А. Надсон і а. Дыякан Р. Тамушанскі адслужылі сьв. Літургію ў адной з падзямельных капліцаў, а даст. Уладыка Часлаў сказаў прынагоднае казаньне, у якім ён зьвярнуў увагу на гонар, які спаткаў усіх прысутных, што маюць нагоду ўзяць удзел у сьв. Літургіі на месцы, дзе ўся зямля ёсьць прасякнутая крывёю мучанікаў. Пасьля сьв. Літургіі — зьведваньне катакомбаў.

Пасьля абеду хлопцы зьведвалі Форум Романум, Вія Сакра, руіны паганскіх сьвятыняў і базылікаў, будынак сэнату, дзе быў забіты Цэзар, рострa, адкуль дэмагагічныя палітыкі прамаўлялі да народу, гроб Ромулюса, трыюмфальныя аркі імпаратараў — усё гэта зрабіла жывой «мёртвую» старажытную гісторыю, якую хлопцы вывучаюць у школе.

У аўторак — экскурсія на цэлы дзень у Остыю. Па дарозе заехалі ў базыліку сьв. Паўла, каб памаліцца на гробе вялікага Апостала. Остыя была некалі портам старажытнага Рыму і мае амаль столькі гадоў, колькі сам Вечны горад. Найнавейшыя раскопкі адкрылі там цэлы рад добра захованых будынкаў з рымскіх часоў, між якімі на ўвагу заслугоўвае тэатр. Гэты апошні ёсьць у такім добрым стане што да сяньняшняга дня там адбываюцца пастаноўкі і канцэрты. Узьнікла думка зладзіць у тэатры беларускую пастаноўку. Хлопцы выходзілі пааднаму або групамі на сцэну, гаварылі вершы, сьпявалі песьні. Была выбраная срогая камісія, якая ацэньвала найлепшыя выступы і пасьля раздала нагароды. Да групы сваіх гледачоў далучыліся чужынцы . . . Мусіць яшчэ ніколі ня здарылася ў гісторыі, каб у старым рымскім тэатры, які мае бадай 2000 гадоў, чулася мова і песьня беларускіх дзяцей.

У сераду раніцай у базыліцы Санта Марыя Маджорэ а. пралат П. Татарыновіч адправіў сьв. Літургію за Беларусь. Літургія была ў рымскім абрадзе ў беларускай мове. Хлопцы прыслугоўвалі і ў часе Літургіі сьпявалі беларускія набожныя песьні: О Мой Божа, Маці наша добрая, Мы хочам Бога, Магутны Божа.

Пасьля абеду вялікае здарэньне: аўдыенцыя ў сьв. Айца. Беларуская група на чале з Уладыкай Чаславам прыехала загадзе на плошчу сьв. Пятра, каб у час заняць сваё месца ў Базыліцы. Беларускія строі хлопцаў выклікалі захапленьне і подзіў з усіх старон. Іх бесперастанна фатаграфавалі, пыталі з якой краіны прыехалі? Трэба было тлумачыць на ўсіх магчымых і немагчымых мовах, аб тым, што такое Беларусь. Былі таксама аматары зрабіць інтэрас: адзін з вучняў школы сьв. Кірыла атрымаў прапанову ад італьянскага хлопца памяняць сваю кашулю на сьвэтар. У прыдачу італьянец даваў яшчэ яму 10000 ліраў (18 $).

Той, хто быў на аўдыенцыі ў сьв. Айца, ніколі не забудзецца аб гэтым. Дык ня дзіва, што аўдыенцыя зрабіла на беларускіх хлопцаў вялікае ўражаньне. Сьвяты Айцец спэцыяльна паблагаславіў іх і перадаў Уладыку Чаславу памятку-мэдаль для школы сьв. Кірыла.

Чацьвер — зьведаньне ватыканскіх музэяў. Цяжка было агледзець за кароткі час усе сабраныя скарбы. Найдаўжэй хлопцы затрымаліся ў Сыкстынскай Капліцы, слаўнай на ўвесь сьвет дзякуючы малюнкам Міхала Анёла.



*На плошчы сьв. Пятра перад папскай аўдыенцыяй.*

Вечарам таго самага дня ўсе паехалі на прыняцьце ладжанае а. пралатам Татарыновічам. Па дарозе аднак заехалі ў царкву сьв. Сергія і Бака, каб пакланіцца іконе Жыровіцкай Божай Маці, якая там знайходзіцца ўжо больш чым 300 гадоў.

Наканец прышла пятніца, апошні дзень у Рыме. Хлопцы годна закончылі свой кароткі побыт у Вечным горадзе сьв. Літургіяй ў базыліцы сьв. Пятра. Служыў сьв. Літургію Уладыка Часлаў у саслужэньні з а. А. Надсонам і а. дыяканам Р. Тамушанскім. Быў прысутны Уладыка Балеслаў Слоскан. Хор хлопцаў прыгожа сьпяваў беларускія літургічныя напевы.

Пасьля Літургіі — кароткія зьведзіны базылікі, паварот дамоў, абед і выезд на станцыю. За пару хвілін цягнік адыходзіць і Рым паволі нікне з вачэй хлапцоў. Але ці назаўсёды?

Ёсьць у Рыме аздін фантан, які завецца фантан Трэві. Кажуць, што калі хто ўкіне туды манэту, дык ён напэўна вернецца зноў у Вечны Горад. Некаторыя вучні Школы сьв. Кірыла пасьпелі пабываць пры гэтым фантане аж тры разы . . .

Наканец трэба сказаць пару словаў шчырай падзякі Дастойнаму Уладыку Чаславу Сіповічу, якому Школа сьв. Кірыла заўдзячвае гэтыя прыгожыя канікулы ў Вечным Горадзе і які зрабіў усё магчымае, каб побыт хлопцаў у Рыме быў як найбольш прыемным.

# З беларускае прэсы:

БАЦЬКАЎШЧЫНА: № 5 (632), Жнівень-Верасень, 1965.

Паважны арт.: «Гістарычнае знач. роднае мовы». Таксама — «Кс. Гадлеўскі на фоне гіст. падзеяў»; расказана аб працы вялікага патрыёта і яго трагічнай сьмерці. — Вобразны арт. — «Інтэрв'ю з найнав. эмігрантам»: расказана, як сьляпыя вядуць відушчых да прывіднага «раю», які ёсьць сапраўдным пеклам для жывых людзей.

*

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: Верасень, № 130, 1965. Торонто, Канада.

Цікава вестка аб Горадні: — Новы плян перабудовы гораду прадугледжвае зьнясеньне амаль цалкам старога гораду, паза Старым і Новым замкамі, ды Фарным і Бэрнардынскім касьцёламі. Кляштар Брыгідак ня улучаны у гістарычныя архітэктурныя помнікі і можа быць зьнесены . . .

(Увага Рэдакцыі: Замешчаем фото із старой гравюры Горадні на бач. 10).

*

БЕЛАРУС: № 103, Кастрычнік.

Нумар заняты Кангрэсам 11-ым Бел.-Амэр. Задзіночаньня. Усе зацікаўлены Кангрэсам і былі-б рады сказаць з «Удзельнікам»: «Рэха Кангрэсу будзе яшчэ доўга гучэць», каб не адна прыкрасьць . . ., што злучэньне не наступіла. А прычына? Ці ня дзеля «аднэй кроплі мёду»?

# Зь лістоў у рэдакцыю

Вельмі Паважаны Рэдактар «Б. Шл.»!

Прашу не адмовіць друкаваньне гэтага майго ліста.

Вельмі прыемна чытаць лісты ў «Б. Шл.» з Аўстраліі. Я таксама мо' напісаў-бы паэтычна, але — бяда! — не маю курачак, коцікаў, сабакі, ці марскіх сьвінак і не спадзяюся, што будуць. Можа дзеля таго і ня мучуся, каб напісаць гэты ліст.

Мне здаецца, што назоў кніжкі «Князь і Лапаць» нічагутка ня шкодны і калі-б даць другі назоў, то вялікае карысьці ня будзе. І вельмі лёгка сказаць, каб такую кніжку выдаць у іншых мовах, але спадаром Н. Ж. і М. Н. — для большае вагі свайго жаданьня-прапановы — трэ было-б дадаць: «На гэтую мэту высылаю на пачатак 100 даляраў ці 50 фунтаў». Прапанова без даляраў ці фунтаў нічога не пасобіць, бо ведама, што аўтар кніжкі «гол як сакол».

Сп. М. Н. піша, што Праваслаўная Царква найменш адыйшла ад Апостальскай, але — знача — ўсё-ж адыйшла. Я з дзеда-прадзеда каталік, дык хацеў-бы ведаць, ці і каталіцтва адыйшло? Калі так, то ў чым? мо Сп. М. Н. паясьніць, бо баюся трапіць у «ад акрамешны»!

Яшчэ Сп. М. Н. піша, што Ватыканскі Сабор «моцна прыблізіў каталікоў да праваслаўных — да старога хрысьціянства». — Добра было-б ведаць, якое гэта «старое хрысьціянства»? ці гэта рускія, так званыя, «стараверы»? ці іншыя якія?.. Бо гісторыя нам паказвае розныя тыпы старых хрысьціян.

Вось, напрыклад, піша польская пісьменніца ў повесьці (М. Коссак-Шчуцкая), як у даўнейшыя часы адзін набожны ваявода горача маліўся стоячы на каленях. І раз, калі ён так маліўся, то ягоны слуга прынёс дровы, каб награць печку, дый так стукнуў, кідаючы дровы на падлогу, што збунтаваў ваяводзіну малітву! Дык тут ваявода рашуча ўстаў і шабляй адсек чалавеку галаву, а сам далей спакойна маліўся.

(Падобна чытаем у рас. гісторыі, што цар Іван Грозны часта маліўся у цэрквах цэлымі начамі, біў паклоны і пасьціў а хлебе і вадзе, а пасьля сьцінаў галовы як капусту).

Надта важная і пякучая праблема — хрысьціянства старое і цяперашняе: на гэта складаецца многа прычынаў. Трэба спадзявацца, што Ватыканскі Сабор знайдзе, Бог дасьць, належную раду.

*А. Чарнэцкі*

*

НАД СЬВЕЖАЙ МАГІЛАЙ

У праменьнях асеньняга сонца 29 верасьня 1965 пад разложыстым клёнам у Госьляры (Зах. Нямеччына) выкапана сьвежая магіла. Непадалёку ад яе ўзносіцца гранітавы крыж, які пануе амаль над усім магільнікам. Крыж — сымбаль ахвяры Бога-Чалавека за грахі сусьвету, і ў суседзтве знайшоў апошні прытулак Слуга Божы Дзекан Міхась Маскалік. Яго жыцьцёвы шлях ня быў лёгкім. Польская палітыка на беларускай зямлі рабіла яму, як чалавеку і сьвятару, шмат перашкодаў.

У часе II-ой сусьветнай вайны а. Міхась апынуўся ў Нямеччыне.

З нямецка-польскае вайны было ў Нямеччыне шмат ваенна-палонных беларусаў, зь якімі а. Міхась, езьдзячы з лягеру да лягеру, навязваў лучнасьць. Аб усім гэтым пісала выходзячая ў Бэрліне бел. газэта «Раніца», замясьціла нават некалькі фото а. Міхася сярод палонных. Пішучы гэтыя радкі спаткаўся ў палоне з а. М.; а бел. паэт М. Васілёк напісаў верш «Ой, дзе вы радзіліся, прасторы», прысьвячаючы яго а. Маскаліку.

Як сьвятар палонных дапамагае ім навязаць лучнасьць з сем'ямі на Бацькаўшчыне.

Ад 1941 г. я страціў сувязь з а. М. Лёс пераганяў мяне ад краіны да краіны і толькі ў 1947 я апынуўся зноў у Нямеччыне і спаткаўся зь ім, а ён усюды, як могучы, даваў маральную і матар'яльную дапамогу ўсім беларусам пры эміграцыі ў заморскія краіны.

Пасьля вайны а. Маскалік асеў стала ў гор. Госьляр, дзе зарганізаваў бел. харытатыўную службу, памагаючы беларусам жывучым у лягерах.

Поле працы было вельмі вялікае. Тры епархіі — Радэрборн, Оснабрук і Гільдэсгайм — мусеў ён у працягу гадоў абслужываць. У 1959 робіць ён пры унівэрсытэце ў Мюнхэн дактарат з філязофіі.

Аж да дня сьмерці а. д-р Міхась Маскалік аддана працаваў дзеля свайго народу. Вось сяньня мы грамадою стаім пры сьвежай магіле: гучыць «Вечная памяць»! А. Салавей у саслужэньні з украінскім духавенствам давяршае сьвятую сумную цырымонію. Пасьля разьвітальных словаў сьвятароў кожны з нас кідае жменю зямлі — на жаль чужой — на труну сьв. пам. Міхася. У народзе чутно плач і ўздрыганьне.

Сьпі, Дарагі Ойча, у чужой зямлі, далёка ад Бацькаўшчыны, якую Ты так моцна кахаў! а мы панясём далей сьветач Хрыстовай навукі і збудуем Табе памятнік у нашых сэрцах.

Спадзяюся, што нашае грамадзтва, раскіданае па ўсіх краінах, чытаючы гэтыя радкі, злучацца з намі у малітвах за душу СЬВЯТАРА БЕЛАРУСА, а. Дзекана Доктара МІХАСЯ МАСКАЛІКА.

Вечная Табе памяць.
Хай лёгкай будзе Табе чужая зямелька
І перад Тронам Усемагутнага
Маліся за нас!

*С. Г.*

Высока Дастойны Айцец Рэдактар!

Пасьля занятых і вельмі цікавых канікулаў у Лёндане, 23-га кастрычніка, я пачаў сваё доўгае падарожжа ў Рым — праз Бэльгію, дзе ў аа. Облятаў адведаў сваіх сяброў, зь якімі вучыўся ў Канадзе і ў Кёнігштайн. Гэтыя флямандзкія манахі-місіянэры прынялі мяне вельмі ласкава. Яны надта спагадліва адносяцца да нашага народу. Адзін клерык мне казаў, што чым больш знаёміцца з Беларусяй, тым мацней у яго душы ўзрастае любоў да нашай краіны.

Маё першае ўражаньне ў Рыме было і прыемнае і няпрыемнае, бо такога гармідару на вуліцах яшчэ нігдзе дасюль не бачыў. Аднак усюды відаць то старыя вялізарныя і стылёвыя дамы, то прыгожыя фантаны.

28, X. я быў прысутны ў базыліцы сьв. Пятра на сэсіі Сабору, дый стаяў недалёка вялікага аўтара, калі Папа служыў сьв. Літургію. Такой урачыстай хвіліны нельга забыцца!

У нядзелю 31-га кастр. ў капліцы аа. Марыянаў я быў пасьвячаны на дыякана праз Яго Дастойнасьць Біскупа Ч. Сіповіча. Архірэйская Літургія з рукапалажэньнем адбылася вельмі паважна і прыгожа. Сьпяваў хор вучняў школы сьв. Кірылы з Лёндану паводле беларускіх напеваў. Дзякую Богу, што яны маглі шчасьліва прыехаць. Сягоньня мы адпраўляем і сьпяваем Літургію ў катакомбах: нашыя хлопцы маюць тут прыгожыя дні канікулаў.

Прабыўшы некалька дзён у Рыме, мне трэба будзе вярнуцца да будняе працы ў Кёнігштайн, дзе чакаюць мяне іспыты з кананічнага права і далей пойдзе клапатлівы, але цікавы сэмэстр.

І жадаю Вам усяго найлепшага!

Ваш у Хрысьце

*а. Дыякан Рабэрт Тамушанскі*

Рым, 1, XI, 1965.

## ДА ЎСПАМІНАЎ АБ КНЯГІНІ МАГДАЛЕНЕ РАДЗІВІЛ

*(З лісту д-ра Ст. Г.)*

Пра існаваньне Княгіні Магдалены Радзівіліхі ў пяршыню я даведаўся ад ген. Кастуся Езавітава, з якім доля пашчасьціла мне пазнаёміцца, ды шчыра запрыязьніцца ў Бэрліне ў 1944.

Варочаючыся ўспамінамі да часоў падгатоўкі прагалашэньня 25 Сакавіка, Езавітаў расказваў, як Радзівіліха поўнасьцяй свае душы і сацыяльнай павагі ўлучылася ў акцыю адбудовы Беларускае дзяржаўнасьці. Бясспрэчны сацыяльны радыкалізм усяго адараджэньня нашага, не аднаго, мо нат і нацыянальна сьведамага прадстаўніка арыстакрацыі, трымаў здалёк.

Радзівіліха лічыла сваім абавязкам праціраць вочы гэтым блізарукім, ды безутомна прапагавала нашу незалежніцка-дзяржаўную ідэю. Нажаль, яе місыя аказалася няўдачнай: апрача аднаго Жыгімонта Скірмунта, не аказалася нікога больш.

Такі стан рэчы ня выклікаў у Радзівіліхі зьнеахвочаньня. Наглядаючы ня толькі апатыю, але і выразную варожасьць у бальшыні нашае старое арыстакрацыі, яна сама пастанавіла даць жывы прыклад нацыянальнай салідарнасьці.

Апрача агульнае, маральнае а матар'яльнае падтрымкі руху палітычнага як цэласьці, свае лясы паставіла на выкарыстаньне дзеля пабудовы школаў.

Але найболей зырка прадставіўся яе крывіцкі патрыятызм і запраўдны князёўскі дух велічы ў гэткай сцэне:

Пасьля прагалашэньня Незалежнасьці, Езавітаў быў назначаны ўрадам БНР, як камандант Менску. У ролі сваёй функцыі даводзілася кожнага дня мець дачыненьні з вялікай колькасьцяй грамадзян, жыхароў гораду. Аднаго дня, ў часе ўрадавых гадзін, ад'ютант убег да Езавітава, паведамляючы, што ў пачакальні, паміж іншымі інтэрэсантамі сядзіць Княгіня Радзівіліха. Езавітаў, дацэньваючы ўклад княгіні ўва ўсіх дзелянках нашых спраў, лічыў за канешнае выйсьці асабіста ды запрасіць у канцылярыю паза калейкай.

На гэта Радзівіліха адказала: «Я шчасьлівая, што, як грамадзянка, зварочваюся да свайго ўраду, ў сваёй Дзяржаве на раўні са ўсімі іншымі, цяпер вольнымі людзьмі».

Такім адказам, хаця яно аж гэтак шчырым, Езавітаў пачуўся зьбянтэжаным, адказаў ёй гэтак: «Княгіня, Ваша Дастойнасьць, ня толькі мы пры камэндатуры гораду і Ўраду Рэспублікі ведаем, сколькі Вы дапамаглі і дапамагаеце, але і ўсе тут прысутныя ведаюць, напэўна не пачуюцца пакрыўджанымі». — Прысутныя, шчыра зусім пачалі таксама прынукаць: «ідзіце, Княгіня, ваш час даражэйшы за наш».

На гэта ўзноў Радзівіліха: «мой час найлепш выкарыстаны паміж сваімі, ў сваёй краіне».

У камэндатуру, як інтэрэсантка, прыйшла па праве калейкі.

Езавітаў агульна ведаў пра беспрарыўную ляяльнасьць незалежніцкай ідэі з боку Радзівіліхі і ў часох яе прабываньня ў Швайцарыі. Ведаючы, як нашая справа няведама на Захадзе, адсюль шуканьне дарог, праявіць гэты голас чым хутчэй, перад канцом апошняе вайны. Езавітава канцэпцыя была, дастацца чым хутчэй да Швайцарыі, да Радзівіліхі, што «пры яе помачы нам удасца навязаць патрэбныя кантакты з заходнімі дыпляматамі», (ня ведаў, што Магдалена ўжо не жыла). На мяне рабіў ціск, каб я пробаваў дастацца да Швайцарыі, перад Радзівіліхай паклікацца на яго, Езавітава. Я згадзіўся на гэткі плян-вымаганьні, ды перад канцом вайны быў у дарозе да Швайцарыі. Нажаль замест швайцарскае граніцы, 15. 4. 44 быў інтэрнаваны амэрыканцамі.

# НЭКРАЛЕГІ

а. КАЗІМЕР СМУЛЬКА нарадзіўся ў в. Прудніке Друйскае парахвіі на Віленшчыне ў 1894 г. 12 студня.. Вучыўся у Пецярбурзе ў Духоўнай сэмінарыі, аднак мусіў перарваць студыі — змабілізаваны падчас канікулаў на вайну. Але на вайну не пайшоў і ўкрываўся ў сваіх родных праз пару гадоў, да часу рэвалюцыі. Далей вучыўся ў Віленскай Сэмінарыі і яшчэ потым у г. Влоцлавэк у Польшчы. З прычыны нездароўя ня быў пасьвячаны і ўступіў у 1924 г. ў Закон аа. Марыянаў і нарэшце — з дыспэнай Ватыкану — быў пасьвячаны на дыякана і сьвятара ў 1926 г. Працаваў у Друі як аканом кляштару і як вікары ў парахвіі. У 1938 быў вывезены, разам з другімі айцамі і клерыкамі, з Друі загадам Польскага ўраду за тое, што гаварыў казаньні ў Друйскім касьцеле па беларуску.

Тады пражываў у польскім кляштары ў м. Скужэц ля Седлец і там таксама быў аканомам і вікарым законным. Апошнія гадоў больш 10-ці быў нявідушчым: але меў такую арыентацыю, што ў кляштары і ў садзе абыходзіўся без праваднікоў, хоць не бачыў абсалютна нічога. Адпраўляў Літургію з памяці паводле рыту «для сьляпых» з пазваленьня Рыму.

Памёр з поўным супакоем і падданем Божай волі ў Скурцы і там пахаваны на парахвіяльным магільніку. На жаль даты сьмерці яшчэ ня ведаем, апрача таго што памёр у кастрычніку 1965. Адзначаўся працавітасьцяй, цьвярозым розумам, незвычайнай памяцьцю, пабожнасьцяй,— паміма цяжкіх перажываньняў і нездароўя — заўсёды добрым гумарам і дасьціпам. *а. Я. Г.*

*

Сьв. Памяці ЯЗЭП КАСЯК нарадзіўся у в. Судовічы (ля Лынтупаў), на Віленшчыне 10. V. 1901 г. У маладых гадох эміграваў у Літву на работу, але ў 1928 пераехаў у Францыю, дзе працаваў у фабрыцы радыё-прыёмнікаў, увесь час прабываючы ў Парыжы.

Я. Касяк быў адным з першых пры арганізацыі Блеарускага Хаўрусу. Ад 1929 ў ягоным пакойчыку на 6-ым паверсе і адбываліся зборкі управы Хаўрусу. Там таксама была і рэдакцыя І-га беларускага часапісу — «Бюлетэнь Хаўрусу», пасьля названы «Рэха».

Калі сябры ўправы Хаўрусу (падчас ІІ-ое сусьветнае вайны) былі змушаныя выехаць з Парыжа, Касяк адзін вёў усе справы Хаўрусу. Тады арганізацыя іграла найважнейшую ролю ў жыцьці нашае эміграцыі, памагаючы кажнаму ўладзіць справы дакумэнтаў — так важные ў ваенным часе.

Я. Касяк быў чалаваекам працавітым, шчырым і вельмі ахвярным у прыватным і грамадзкім жыцьці.

Ад 1962 г., як поўны інвалід, мусіў пакінуць працу і жыць толькі з пэнсіі. Апошні год правёў у шпіталі змучаны жыцьцём, асабліва падчас вайны і хваробай. Памёр, як добры хрысьціянін, прыняўшы Сьвятыя Тайны, дня 5 лістапада. На паховіны, паміма рабочага дня, сабралася значная група прыяцеляў і другіх суродзічаў. Паніхіду і Літургію адслужыў а. Леў Гарошка у Нотр Дам дэ Пары, а пасьля праводзіў Нябожчыка на магільнік Пантэн у Парыжы 9-га лістапада 1965 г.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ нашаму Дарагому Суродзічу, добраму грамадзкаму Працаўніку і ЧАЛАВЕКУ!

*

Дня 9 верасьня 1965 памёр у Францыі ў Лібэркор наш суродзіч ГАЛЬЯШ ЯЦКЕВІЧ пасьля доўгае цяжкае хваробы, спрычыненай працаю ў шахтах, маючы 62 гады жыцьця. 13-га верасьня у гадз. 10-ай у царкве ў Лібэркор адбылася Паніхіда за ўпакой душы Сьв. Памяці Гальяша і адсюль пахаронным маршам у паўсотні людзей праводзілі Яго на магільнік.

Пакойны вельмі любіў Бацькаўшчыну-Беларусь, быў чытачом і падпісчыкам шмат якіх часапісаў і газэт і кніжак. Ахвотна дапамагаў у грамадзкіх патрэбах.

У смутку пакінуў жонку і дзьве дачкі.

Хай будзе Яму лёгкай француская зямля на вечны супакой!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*

Дзекан д-р МІХАЛ МАСКАЛІК: нарадз. 18. III, 1903. Памёр 25, IX, 1965. Паходзіў зь в. Гарадзея, а студыяваў у Вільні матэматыку і фізыку. Ад 1932 да 1934 вучыўся ў Электра-Тэхнічнай Вышэйшай школе ў Нямеччыне, а пасьля ў калегіі Сьв. Андрэя ў Мюнхэне быў на курсе філязофіі і тэалёгіі. Пасьля сьвячаньня — ўжо маладым сьвятаром — выехаў у Вільню, каб працаваць між беларусамі; аднак скора вярнуўся ў Нямеччыну і працаваў між украінцамі, затое трапіў у нямецкі конц'лягер, дзе прабыў некалькі месяцаў. Як немцы былі разьбітыя, а. Маскалік пачаў працаваць і між беларусамі ў Бэрліне і інш. лягерах, таксама ў Беларускім Харытасе. Памагаў беларусам і ўкраінцам у эміграцыі за акіян.

Як толькі эміграцыя зьменшылася, а. Дзекан студыяваў у Мюнхэне філязофію і здабыў дактарат у 1959 г.

Няхай Добры і Міласэрны Госпад дасьць Яму вечны супакой і нагароду за ўсё добрае, што ў сваім жыцьці зрабіў для Божае хвалы і на карысьць бліжніх!

# *Залатыя думкі і прыклады*

«Сто разоў, бясконца важнейшая справа за ўсё іншае ёсьць тое, каб вы былі *сьвятыя*. Ні больш, ні менш», казаў вялікі місіянэр Кітаю а. Леббэ.

*

«Што я магу зрабіць у сваей фабрыцы? Цэлы дзень я адна-аднюсенькая з машынай», скаржылася 19-ці гадовая дзяўчына.

«Хрыстос быў сам у Назарэце, а ўжо тады збаўляў сьвет», адказаў ёй капэлян.

*

«Калі *церпіш,* а маеш у сэрцы *любоў,* дык скора праканаешся, што ня церпіш зусім», сказаў сьв. Ян Вьяннэй.

### ДУМКІ КАРДЫНАЛА ЖУРНЭ

Кард. Журнэ — філязоф, прафэсар. Радз. ў Швайцарії у 1891. Ён ужо загадзя пісаў аб Саборы і, можна сказаць, прыгатаваў грунт для яго: цяпер уласна шмат з тых яго экумэнічных думак увайшло ў Саборную Канстытуцыю. Павал VI, ацэньваючы Журнэ, назначыў яго, пасьля III Сэсіі Сабору, кардыналам. Але Журнэ прасіў пакінуць яго на старым становішчы прафэсара: ходзіць, як і перш, у сваёй чорнай вопратцы.

Прэзыдэнт Швайцарыі сказаў, вітаючы Журнэ, як кардынала, што яго думкі «сталі падставай швайцарскай палітыкі заграмічнай».

1) ДУМКІ аб ЦАРКВЕ:

— Царква ёсьць бязгрэшная, але не бяз грэшнікаў.

— Чалавек у той меры ёсьць жывым членам Царквы, у якой паддаўся ласцы і любові.

— Тое, што ў чалавеку ёсьць грэшнае, усё астаецца за Царквою.

— Тыя людзі, што ў імя дабра — ў сваім найлепшым, хоць і блудным разуменьні, змагаюцца з Царквою, ужо зь ёю ў нейкі спосаб зьвязаныя.

2) ДУМКІ аб ГІТЛЕРЫЗЬМЕ:

— Мы ня ёсьць нэўтральныя ў тым, што адчуваем. Было-б злачынствам аставацца нэўтральным у тым, што мы бачым і што разумеем як справядлівасьць і несправядлівасьць.

### ДУМКІ ЯПІСКАПА ЕВЛОГІЯ

«Царква — цэнтральная ідэя майго жыцьця».

«Я ўважаю, што цярпеньне ёсьць вялізарнай творчаю сілаю».

«Манаства ёсьць жыватворным сродкам, каб захаваць агонь любові ў Царкве».

«Сама старасьць — гэта хвароба».

---

### ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

*ЛІСТ ДЫРЭКТАРА ДРУКАРНІ ДА РЭДАКТАРА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»*

*Я сёмы раз.*
*(І ўжо астатні)*
*Пішу да Вас —*
*Мой ліст прыватны —*

*— І з просьбай-грозьбай, (Ня дай Божа!),*
*Калі і гэта не паможа,*
*Дык — на маё і ваша гора —*
*Пан Пракурор дальш загавора!!!*

*— Так, бачу я зь вялікім страхам,*
*Што доўг расьце на «Божым Шляхам» —*
*За друк, за фото, за паперу...*
*Чакаць ня буду — дальш ня веру*
*І ваша карта будзе біта:*
*Плаціце доўг і з намі квіта! —*
*З варштату гэты нумар здымем*
*І новага ніяк ня прымем!*

*— Дый таго мала, Дабрадзею!*
*Як страчу я на Вас надзею,*
*Каб мне адбіць усенькі страты,*
*Рэдактара ўсаджу за краты. —*

*— Каб нам не плакаць па той шкодзе,*
*Плаціце доўг па добрай згодзе!*

(Падпісаў: «Дырэктар Н. у Мюнхэне)

*

*Так вянуць сьвежыя лілеі,*
*Так гінуць нашыя надзеі.і —*
*Ах, Чытачы! хоць я — «Адважны»,*
*Але мой лёс зусім не важны:*
*Ці ў гэту працу ўлез я здуру?*
*Ратуйце Вы на мне хоць скуру!*
*А хто чытае, дый не плаце —*
*Што будзе дальш? — Скажы, мой Браце!..*

Рэдактар Я. Г.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Сп. Г-у з Клівленд — $ 50. За кніжкі «Кн. і Л.»

Сп. У. К-н Францыя з Нэгріер Н. Фр. 5 на »Б. Шл.»

Сп. д-р Н-з Амэрыка — $ 10 — на «Б. Шл.» і $ 3 — за кніжку.

Сп. Я. Ч. — Чыкаго $ 2, і 2 — на «Б. Шл.».

Сп. О-а з Нью Ёрку $ 5 на «Б. Шл.».

Сп. Г-х Нямеччына £ 1 — на «Б. Шл.».

Сп. З. С. — Англія — £ 0,10,0 — на «Б. Шл.». Д-р С-а £ 1 — на «Б. Шл.».

Сп. Т. С. — Лёндан — на «Б. Шл.» — £ 0.10.0.

Сп-ня І. С-а Мадрыд, Гішпанія: 4-ы малюнкі атрыманыя і залічана — з падзякаю — як падпіска на «Б. Шл.».

Сп. С. Г-а — Англія — Брадфорд: £ 3 — на Фонд Школы і £ 0,10,0 — на «Б. Шл.».

а. М. У. — ст. Нью Ёрк: у Кастрычніку і Лістападзе па 125 $ — запісана на Фонд Школы. Разам 250 $ — ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!

а. Я. Г-с — Стагбрыдж, Массачюзэт: Вашая просьба будзе споўнена.

«Гл. П-і» — Буэнос Айрэс — Аргентына: № 39 пасьвячаны сьмерці Сп. Флёрыяна Чарнышэвіча атрымалі, дзякуем!

Сп. Ал. Л. — Лёндан: За 1964 і 65 г. — £ 1,16,0 — на «Б. Шл.».

Сп. С-К. праз А. Л. — Лёндан — £ 1,0,0 — на «Б. Шл.».

— За паведамленьне з Брытыш Музэум — дзякуем!

*Рэдакцыя «Божым Шляхам»* дзякуе Прыяцелям і Падпішчыкам, якія ахвярна памагаюць і сумленна выпаўняюць грамадзкія абавязкі. Паважаным Чытачом, якія ня выпаўнілі аплаты, напамінаем: ХТО ЧЫТАЕ, ТОЙ ПЛАЦІЦЬ!

**ЖАРТЫ:**

### З ПАЛЯВАНЬНЯ

Паляўнічы прыходзіць з паляваньня — злы як сабака: а зь ім сабака — галодны як воўк.

Іх спатыкае гаспадыня — цікавая як каза: — А я — кажа — абеду не варыла: чакала, што прынясіцё зайца. Што? ня прыстрэлілі?

Паляўнічы адбуркнуў як мядзьведзь: — Прыстрэліў, але забыўся ўзяць солі, каб пасыпаць на хвост, дык заяц уцёк...

### МІЖ ПРАФЭСАРАМІ

Новы праф. — Скажыце, калега, вунь той — там, што ходзіць, рукі залажыўшы, дзе ён працуе?

Стары праф. — Ён у вышэйшай матэматыцы.

Новы праф. — А што ён выкладае?

Стары: — Што нагатуе, тое выкладае.

Новы: — Я хацеў спытацца, якая яго спэцыяльнасьць?

Стары: — Ды ён малодшы кухар у інтэрнаце старшых студэнтаў.

## ЗЬМЕСТ:




Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.